PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 2 (2070) ГОД XLI БЕЛАСТОК 14 СТУДЗЕНЯ 1996 г. ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)



Фота Уладзіслава Завадскага

## Гагатуха

Новы год не заўсёды беларусы святкавалі як цяпер, зімой. Даўней каляндарны год пачынаўся вясной, разам з прабуджэннем прыроды, калі людзі пачыналі пасяўныя працы. Толькі ў канцы сярэднявякоўя Новы год перанеслі на зіму. Разам з тэрмінам перайшлі і навагоднія абрады. Аднак у зімовую пару гэтыя звычаі намнога пашырыліся, бо спалучыліся з дахрысціянскім культам сонца. Хаця Царква ў месца язычніцкіх свят назначыла самыя вялікія святы — Нараджэнне Хрыста, Святога Васіля, Вадохрышча — у народзе захаваліся многія сляды старадаўніх павер'яў.

Непаўторна на Беласточчыне святкавалі апошні дзень старога года. На Гайнаўшчыне гэты дзень называлі **Калядой**, а вечар — **Гагатухай**. Варта адзначыць, што Каляду святкавалі тры разы: перад нараджэннем Хрыста, Новым годам і Вадохрышчам. Гэты абрад меў магічны характар. Ад яго меў залежыць будучы год. У калядную вячэру спажывалі рытуальную страву — куццю. Мела яна сімвалізаваць несмяротнасць, даўгавечнасць роду. У некаторых вёсках абрадавую вячэру называлі **Куццёй**. Каляда перад Новым годам адрознівалася ад двух апошніх. Называлі яе багатай або скаромнай. У гэты дзень гаспадыні пяклі бульбяную кішку, вэнджаныя каўбасы, кумпякі, духмяны жытні хлеб, усялякія пірагі. Куццю, якую спажывалі ў канцы вячэры, акрашвалі скваркамі. Багаты, мясны састаў яды меў забяспечыць у надыходзячым годзе дастатак і ўраджай.

Гаспадары ў калядны дзень стараліся ўвесь час нечым займацца. Мела гэта запэўніць ім у новым годзе нястомнасць, руплівасць і гаспадарнасць. Нічога таксама не пазычалі ў суседзяў, бо гэта магло сцягнуць на сям'ю нястачу. Увесь дзень праходзіў па прынцыпу: *як сёння, так і цэлы год будзе.* Вечарам ішлі *гагататі.* Захавалася яшчэ абрадавая песня:

*Васілёва маті*
*пошла гоготаті*
*гоготала, гоготала*
*нігдэ кішкі нэ достала.*

Гагатанне напаміналa гуканне вясны з той розніцай, што каляднікі выклікалі не вясну а **Год**. Песні і словы калядоўшчыкаў мелі бытавы характар. Многа месца адводзілася пажаданням гаспадару (асабліва гасціннаму) ў новым годзе. Калядоўшчыкі пераапраналіся за звяроў і біблейскія постаці. Існавала перакананне, што ў навагоднюю ноч бушуюць злыя духі, таму трэба было паліць вогнішчы, а пазней, калі паявілася электрычнасць, святло. Каб дапамагчы новаму году ўвайсці на месца старога, калядоўшчыкі стараліся нішчыць старыя прадметы. Найчасцей ламалі, палілі або хавалі брамы. У маёй роднай вёсцы Катлоўцы *гагатаці* ішлі пераважна кавалеры. Пасля багатай, сытай вячэры маладзёны сабіраліся ў „кампанію". Там дзяліліся на групы і абдумвалі ўсялякія фокусы. У гэтую ноч дазвалялася ім усё. Самым папулярным заняткам было хаванне брамы. Часам, калі гаспадар перашкаджаў моладзі, браму палілі, найчасцей за вёскай на скрыжаванні дарог. Іншым аб'ектам навагодняй гульні былі прыбіральні. Кавалеры не толькі іх перакульвалі, але і палілі або запіхалі снегам. Іншым відам гульні быў абмен хатняй жывёлы. Здаралася, што цэлы першы дзень новага года гаспадары шукалі па суседзях свайго дабытку. У гэтую ноч хавалі таксама сельскія прылады. Самым папулярным „фокусам" было ўцягнуць воз на дах. Такі воз часта тырчэў там аж да вясны. У навагоднюю ноч, як сведчаць многія ўдзельнікі гагатухі, людзі былі надзелены надзвычайнай сілай і моцай.

— Калі ўцякаеш ад дзядзькі з бізуном, то быццам крылы табе вырастаюць, — расказвалі многія ўдзельнікі гульбішча. Дарэчы, навагодні вечар успаміналі ўсе, асабліва дзяўчаты. Яны ўвесь вечар варажылі. Іхнія магічныя практыкі мелі прадказаць жаніхоў, замужжы, вяселлі ў вёсцы. Апрача варажбы дзяўчаты пасыпалі сцежкі, якія спалучалі закаханых. Часам аж да канца зімы ў вёсцы віднелі шляхі з чырвонага баршчу, саломы ці попелу. Пры нагодзе ўся вёска даведвалася пра засакрэчаны або „насмешлівы" раман. Але за варажбу і навагоднія гульбішчы ніхто не абражаўся. Успамін гагатухі заўсёды выклікаў вясёлы, здаровы настрой. Каляднікі хадзілі яшчэ праз тыдзень, на свята Трох Каралёў. У гэтым карагодзе здараліся яшчэ многія гульні, родам са старадаўнасці.

**Ганна Кандрацюк**

*Юры Баена*

## Пашыраецца беспрацоўе сярод настаўнікаў

Дэмаграфічны шок — так трэба назваць актуальную сітуацыю, якая адносіцца да статыстычнага стану грамадзян Польшчы. Лік насельніцтва краіны ў 1995 годзе пабольшыўся ўсяго на 43 тысячы, гэта значыць на 0,11 працэнта. Не было так нізкага натуральнага прыросту за апошнія 50 гадоў! Калі тэндэнцыя зніжэння прыросту не спыніцца, то агульны лік насельніцтва нашай краіны пачне змяншацца.

У 1995 годзе нарадзілася ўсяго 445 тысяч дзяцей. Апошні ад заканчэння II сусветнай вайны, хаця не самы вялікі, лік нараджэнняў мела Польшча ў 1983 годзе. На свет прыйшло тады 720 тысяч дзяцей. На працягу 12 гадоў адбылося зніжэнне на 38 працэнтаў. Варта тут папоўніць, што дэмаграфічны максімум быў у першай палове пяцідзесятых гадоў. Натуральны прырост амаль штогод дасягаў тады 2 працэнтаў.

Асноўнай рэальнасцю апошніх гадоў становіцца факт змяншэння дзяцей у пачатковых школах, але адначасова — узрастання ліку моладзі аднаго года нараджэння, якія ўваходзяць у сярэднія школы. Такая тэндэнцыя ўтрымаецца прынамсі да 2000 года.

Ва ўмовах гаспадарчага рэгрэсу асвета, як бюджэтная сфера, нясе шматлікія адмоўныя паслядоўнасці грамадска-эканамічнай перабудовы. Адукацыя і выхаванне менавіта апынуліся ў сітуацыі, у якой, здаецца, горш быць ужо не можа. Школа рэалізуе ўсяго толькі мінімум дыдактычна-выхаваўчых і апякунчых абавязкаў. Аказваецца аднак, што дэкрэтамі можна яшчэ павялічыць колькасць вучняў у класах да 40, забараніць — у выпадку некаторых прадметаў — падзел на групы, зняць апошнія пазаўрочныя заняткі, адмовіцца ад індывідуальнага навучання дзяцей-інвалідаў. Яшчэ раз нехта ў Міністэрстве нацыянальнай адукацыі захоча ўзяцца за рэдукцыю многіх запісаў у „худых" ужо праграмах, абмяжуе план навучання. У выніку такой працэдуры ў маштабе цэлай краіны „ўдасца" звольніць боль-менш 50—60 тысяч настаўнікаў. Каб толькі падпарадкавацца бюджэтнаму рэжыму! Аднак такога тыпу рашэнні могуць абазначаць канчатковую дэградацыю школы разам з усімі грамадскімі, культурнымі і гаспадарчымі паслядоўнасцямі.

У рамках дэцэнтралізацыі ўлады выбраны быў самаўрадавы варыянт асветы з той перакананасцю, што вырашыць яна прынамсі большасць праблем пачатковага школьніцтва. Вядомае ўжо цяпер тое, што каб дабіцца станоўчых рэзультатаў на ніве адукацыі і выхавання, шмат гмін не ў змозе споўніць канкрэтныя фінансавыя і арганізацыйныя патрэбы. Перад усім бар'ерам з'яўляецца недастатковая дзяржаўная асветная субсідыя. Паўсюдна вядома і тое, што гміны, асабліва бедныя (такія ў большасці ў нас на Беласточчыне) маюць і так многа эканамічных праблем. Пры-

*Працяг на стар. 8*

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Po wyborach prezydenckich Polaków dzieli się na tych, którzy Boże Narodzenie traktują jako „przeżycie religijne" (49 proc.) i uważających święto za „miłą tradycję" (50 proc.) Czy to znaczy, że ci z „miłą tradycją" zamiast „Bóg się rodzi" podczas wigilijnej wieczerzy intonowali „Podmoskownyje wieczera", a zamiast ryby pochłaniali golonkę?*
*Wprost, nr 52 (1995 r.)*

* * *

*Milczanowski: Premier był informatorem obcego wywiadu. Oleksy: Nigdy nie byłem agentem obcego wywiadu,* — дыскуталі ў Сейсе прэм'ер-міністр III Рэчы Паспалітай Алексы і міністр унутраных спраў Мільчаноўскі.
*Gazeta Wyborcza, nr 296 (1995 r.)*

* * *

*Polscy politycy zachowują się jak małżeństwa dotknięte chorobą alkoholową. Kiedy są trzeźwi, idą pod rękę do kościoła. Kiedy się napiją, cała ulica musi obserwować awanturę.*
*Wprost, nr 52 (1995 r.)*

Апошнім часам, будучы ў стане, які медыкі акрэсліваюць „delirium", абвінавачвалі сябе ў шпіёнстве, ілгунстве, ашуканстве — аб чым дарэчы люд і так быў поўнасцю перакананы. А яшчэ не так даўно прыемна было вечаркам сесці перад тэлевізарам і паслухаць прамую трансляцыю з Сейма, дзе галоўнай тэмай дыскусіі была оргія ў пасольскай гасцініцы з удзелам нейкай Анастазіі П.

* * *

*W Ameryce opowiadają już sobie, że jest taki kraj Polska, w której można sprzedać każde guano, byle z napisem „made in USA".*
*Polityka, nr 51 (1995 r.)*

Найлепш прадаюцца старыя анучы. Усе ад гэтага інтарэсу шчаслівыя: і даўганогія прыгажуні, якія за сімвалічную цану ходзяць апранутыя ў замежныя „zachodnie ciuchy", і амерыканцы, бо не мусяць думаць, дзе падзець непатрэбныя адпадкі.

* * *

*Prowadzona dziś przez Lecha Wałęsę, „Solidarność" i niektóre partie prawicowe bardzo ostrą kampanią stwarza wręcz niebezpieczeństwo wojny domowej. Do jej wywołania nie jest potrzebna jakaś masowa akcja — wystarczą niewielkie grupy awanturnicze,* — сказаў Ежы Гедройць.
*Nowa Europa, nr 51 (1995 r.)*

* * *

*Prasa niemiecka pisze, że niedawne wybory prezydenckie pokazały, że Polska jest podzielona. Połowa Polski, która opowiada się za Kwaśniewskim, jest modernistyczna, permisywna, agnostyczna, a także trochę socjalistyczna — druga połowa, która głosowała za Wałęsą, jest konserwatywna, propapieska, narodowa, antykomunistyczna i przepełniona nieufnością i nienawiścią do komunistów. Ta polaryzacja nie zapowiada Polsce nic dobrego. W normalnych czasach istnieje w Polsce skłonność do anarchicznego traktowania polityki. To co zaprezentował w ostatnich dniach swojej prezydentury Lech Wałęsa miało już wzory w polskiej historii.*

*Prasa czeska pisze, że w normalnym kraju, gdyby premierowi udowodniono, że jest szpiegiem, to premier powinien złożyć dymisję albo popełnić samobójstwo. Do samobójstwa polskiego premiera nie doszło. Albo więc Polska jest normalnym krajem i w tym wypadku premier nie jest szpiegiem, bo się nie zastrzelił, albo Polska nie jest normalnym państwem i wtedy prawdopodobne są obie możliwości: że premier jest szpiegiem lub nie.*
*Gazeta Wyborcza, nr 298 (1995 r.)*

Усё зразумелае, як у чэшскім фільме.

* * *

*Polskiemu żołnierzowi przysługują tylko jedne majtki i tylko jedna kąpiel w tygodniu. Żołnierz tych gaci nie może sobie wyprać, bo nie ma innych na zmianę. Więc albo będzie biegał za przeproszeniem, z gołą d..., albo w mokrej bieliźnie. Oba warianty są równie szkodliwe dla zdrowia,* — дайшла да вываду
*Gazeta Współczesna, nr 248 (1995 r.)*

* * *

*Dzieci Zachodu, karmione hamburgerami, oszukiwane przez swoje rządy — żal mi was. Wy się kurczycie! Wasza odzież, nawet prezerwatywy nie pasują na Rosjan, wszystko macie w zbyt małych rozmiarach,* — сказаў Уладзімір Жырыноўскі, лідэр расейскіх нацыяналістаў.
*Wprost, nr 52 (1995 r.)*

* * *

*Jeżeli człowiek nie czuje się prześladowanym — nie jest sobą, a wreszcie staje się nikim,* — заявіў Яцэк Качмарскі, бард „Салідарнасці".
*Gazeta Współczesna, nr 248 (1995 r.)*

Шчыры хлопец.

* * *

*Dzieciątko w żłóbku i mężczyzna na krzyżu — te symbole są zrozumiałe dla ponad miliarda chrześcijan na świecie. Są znakiem solidarności z człowiekiem, który oddał swe życie za innych i został uznany za Syna Bożego. Do Chrystusa przez minione dwa tysiące lat ciągnęli marzyciele, biedni, rebelianci i zrozpaczeni. Ale też z imieniem Chrystusa na ustach popełniono niewybrażalne zbrodnie ludobójstwa, toczono wojny i stworzono autorytarne instytucje kościelne skrępowane siecią dogmatów, mające na sumieniu sianie nienawiści wobec pogan i innowierców.*
*Polityka, nr 51 (1995 r.)*

* * *

*Po raz pierwszy dodatni bilans w naszej wymianie handlowej uzyskał Mieszko I sprzedając niewolników. Zdobywał w ten sposób środki na inwestycję, jaką było tworzenie własnego państwa. Brutalnie mówiąc, żeby zbudować swoje chrześcijańskie państwo, Mieszko musiał najpierw sporo swoich krajanów sprzedać Saracenom w niewolę. Chociaż starano się najpierw łapać sąsiadów Czechów, Małopolan, Pomorzan, Prusów, tylko jak już nic pod ręką nie było, trzeba było sięgać po swoich Polan. Słowianki traktowane były jako bardzo cenny towar w islamskich haremach. Kto wie, czy nie najcenniejszy,* — сказаў былы міністр асветы, гісторык Генрык Самсановіч.
*Magazyn — Gazeta, nr 51 (1995 r.)*

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Польшча** на працягу 1996 і 1997 гадоў будзе непастаянным членам Савета Бяспекі — асноўнага органа Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які нясе галоўную адказнасць за падтрыманне міжнароднага міру і бяспекі. Савет гэты складаюць 15 дзяржаў, у тым ліку пяць членаў пастаянных: ЗША, Расея, Кітай, Францыя і Вялікабрытанія.

**Віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі** заявіў, што ў студзені 1996 г. будзе прызначаны **упаўнаважаны па справах нацыянальных меншасцей** у Беластоцкім ваяводстве, дзе пражываюць між іншым беларусы, украінцы, татары і расейцы. Упаўнаважаны будзе займацца не толькі кантактамі з прадстаўнікамі меншасцей, але і папулярызацыяй ды абаронай іх інтарэсаў перад цэнтральнымі ўладамі. Абсяг яго паўнамоцтваў і абавязкаў распрацоўваецца пры выкарыстанні вопыту Ваяводскай управы ў Аполі, дзе працуе упаўнаважаны па справах нямецкай меншасці.

**У Гданьску** ў прысутнасці архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага **Савы** адбылася ўрачыстасць пасвячэння купалаў на царкве. Да гэтай пары іх тут не было, бо царква змяшчаецца ў будынку колішняй евангелічнай кірхі. Дзякуючы ахвярнасці прыхаджан будынак набыў праваслаўны выгляд.

**Мусульмане** адзначалі 70-годдзе існавання Мусульсанскага рэлігійнага саюза і Культурна-асветнага саюза татараў РП. У снежні 1925 г. у Вільні адбыўся Усяпольскі з'езд дэлегатаў мусульманскіх гмін, на якім устаноўлены быў польскі начальнік мусульман — муфтый (да гэтага часу падлягалі яны крымскаму муфтыю). Цяпер на Беласточчыне пражывае каля 3 тысяч мусульман, з чаго ў самім Беластоку — 1,5 тысячы. Тут знаходзіцца таксама Студэнцкі мусульманскі цэнтр.

**У Краязнаўчым музеі ў Брэсце** адкрылася выстава „Верныя Богу і Айчыне", прысвечаная лёсам вайсковых капеланаў у Войску Польскім у 1914—1945 гадах. Экспазіцыю, якая будзе адкрытая да канца студзеня г.г., падрыхтавалі гісторыкі з Музея войска ў Беластоку. З Брэста выстава пераедзе ў Гродна і Баранавічы.

**Гміны Новы Двор, Нараўка і Крынкі** заваявалі тры першыя месцы ў конкурсе „Самакіраванне — так, самотнасць — не" і ва ўзнагароду атрымалі адпаведна 20, 15 і 10 млн. старых злотаў. Арганізатарам конкурсу з'яўляецца Самаўрадавы сеймік Беластоцкага ваяводства, а прызы прысвойваюцца за развіццё культуры і найлепшае супрацоўніцтва інструктараў Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку з дырэктарамі гмінных асяродкаў культуры.

Званне **Ганаровага пасла Беластоцкай зямлі** атрымалі: Ізабела Скарупка (шведская кіназорка, ураджэнка Беластока), Беластоцкі мясакамбінат і гміна Белавежа. Уручаныя ўпершыню вылучэнні прысвойваюцца ў трох катэгорыях: мясцовасцям, установам і асобам, якія прапагандуюць Беласточчыну ў краіне і на свеце.

**У Беластоцкім ваяводстве** калядныя канікулы для вучняў падставовых і сярэдніх школ былі прадоўжаны на тыдзень, да 6 студзеня г.г., у сувязі з ростам захворванняў на грып. Гэта не паўплывае на змену тэрміну зімніх канікул, якія ў нашым ваяводстве будуць працягвацца з 12 па 24 лютага. Аб гэтым, як вучні і настаўнікі адпрацуюць страчаны тыдзень, вырашыць Міністэрства нацыянальнай адукацыі.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Прэзідэнт віншуе прэзідэнта

У сувязі з інаўгурацыяй прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка накіраваў яму тэлеграму. „Спадзяюся, што традыцыйна добрасуседскія і дружалюбныя адносіны нашых дзяржаў, плённыя іх кантакты па розных напрамках двухбаковага супрацоўніцтва будуць садзейнічаць паляпшэнню дабрабыту польскага і беларускага народаў, умацаванню міру ў Еўропе і ва ўсім свеце", — гаворыцца ў тэлеграме. Аляксандр Лукашэнка пажадаў прэзідэнту суседняй дзяржавы моцнага здароўя, шчасця і поспехаў у яго дзейнасці на гэтай высокай пасадзе.

### Бедны парламент

Рашэнне аб пачатку правядзення першай сесіі новага парламента 9 студзеня 1996 г. прынята было на пасяджэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі. Адно з найбольш балючых — пытанне аб фінансаванні працы першай сесіі. Пасля працяглай дыскусіі прадстаўнікоў бакоў, якія маюць дачыненне да склікання першай сесіі Вярхоўнага Савета, Цэнтрвыбаркам прыняў рашэнне: зыходзячы з таго, што першая сесія будзе доўжыцца каля месяца, камісія просіць Кабінет Міністраў да 25 снежня 1995 г. пералічыць 2,5—3 мільярды рублёў на яе правядзенне. Урад тэрмін не стрымаў.

### Конкурс пра сімволіку

Па распараджэнні кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Мясніковіча з 21 снежня 1995 г. па 1 мая 1996 г. праводзіцца конкурс на лепшы тлумачальны тэкст да дзяржаўнага герба і дзяржаўнага сцяга рэспублікі. Тлумачальныя тэксты на беларускай або рускай мовах аб'ёмам не больш аднаго аўтарскага ліста павінны змяшчаць падрабязныя тлумачэнні гістарычнага, культурнага і эстэтычнага сэнсу і зместу элементаў герба і сцяга. Магчымы ілюстрацыі. Паўдзельнічаць у конкурсе могуць як грамадзяне рэспублікі, так і замежных дзяржаў.

### Прэзідэнцкія папярэджанні

Службай кантролю прэзідэнта выкрыты сур'ёзныя злоўжыванні ў парадку накіравання супрацоўнікаў Міністэрства аховы здароўя ў службовыя замежныя камандзіроўкі. Распараджэннем Аляксандра Лукашэнкі міністр аховы здароўя Інэса Драбышэўская за разбазарванне сродкаў прызначаных для медыцынскага абслугоўвання насельніцтва папярэджана аб службовай неадпаведнасці. Пытанне аб знаходжанні яе на пасадзе міністра будзе разгледжана на выніковым пасяджэнні камісіі па праверцы закупак медыцынскага абсталявання і лекавых сродкаў. Прэзідэнт Беларусі прапанаваў кіраўніку адміністрацыі ўнесці прапановы па пакаранні старшынь шэрагу адміністрацыйных, асветных і гандлёвых устаноў аж да вызвалення ад займаемых пасад. Гэта адбылося пасля праверкі службай кантролю стану харчавання ў школах і вышэйшых навучальных установах. Строга папярэджаны міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў і старшыні аблвыканкамаў.

### Год затрымкі

1995 год для Беларусі застаўся годам нявыкарыстаных магчымасцяў, — заявіў на прэс-канферэнцыі лідэр рэспубліканскіх прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык. На канец года амаль 700 млрд. рублёў складаюць затрымку па зарплаце, нягледзячы на тое, што сам прэзідэнт на II З'ездзе прафсаюзаў гаварыў аб распрацаваным указе, згодна з якім усе прадпрыемствы павінны выплаціць зарплату да 1 студзеня 1996 г. Галоўным пытаннем сустрэчы з журналістамі стала магчымасць правядзення прафсаюзамі масавых мерапрыемстваў па пратэсту з лозунгам выплаты зарплаты працоўным, як гэта было ў пачатку мінулага года. Такія акцыі могуць адбыцца ў другой палове студзеня.

### У гонар Міцкевіча

Споўнілася 197 гадоў з дня нараджэння добра вядомага ва ўсім свеце паэта Адама Міцкевіча. З гэтай нагоды ў Лідзе ля помніка вялікаму паэту адбылася традыцыйная ўрачыстасць. Дзеячы Лідскага аддзела Саюза палякаў, члены Лідскага таварыства польскай культуры, дзеці, якія вывучаюць у школах польскую мову, удзельнікі конкурсу на лепшае чытанне твораў Міцкевіча і жыхары Ліды запалілі свечкі, падзяліліся аплаткам, усклалі да помніка паэту-дэмакрату кветкі. Варта адзначыць, што на ўрачыстасці акрамя палякаў прысутнічалі людзі іншых нацыянальнасцей.

### Гродна выходзіць на захад

Выстава-прэзентацыя горада Гродна як турыстычнага і прамысловага цэнтра адбылася ў Парыжы. На ёй былі прадстаўлены карціны і работы народных умельцаў, вырабы прамысловых прадпрыемстваў вобласці. Заключаны кантракты з французскімі фірмамі аб прыёме турыстаў у Гродне, а таксама з шэрагам бізнесменаў. У гэтым годзе гродзенцы плануюць арганізаваць падобныя выставы ў Нямеччыне і Польшчы.

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

- Аляксандр Максімюк і Алег Латышонак пра праблемы сучаснай моладзі.
- Бельск-Падляшскі ў вачах прадаўшчыцы.
- Беларусы ў Шчэціне змагаюцца за тэлебачанне на роднай мове.

# „ЧАЙ ПІЛА Я, БУЛКІ ЕЛА"

*Жыхарка Чыжоў,* **Параскева Сахарчук** *(1905 года нараджэння) у выніку бежанства трапіла ў Самарскую губерню, Бузулукскі ўезд. Сяло звалі Лагачоўка. Выехалі з дому — бацькі, яна і сястра — як і ўся Беласточчына, летам 1915 года. Вярнуліся восенню 1921 года. Не ўсе.*

Да Баранавіч ехалі мы фурманкаю. Там загрузілі нас на поезд і так, здаецца, дабраліся аж на месца. Доўга ехалі ці коратка, гэтага я ўжо не помню, ано там зіма ўжо пачалася. Аднак, там зімы раней настаюць, чымсьці ў нас.

Лагачоўка, гэта вялікае сяло, з пяццю вуліцамі, царквою, школай. Былі там яшчэ гміна і пастарунак. Людзі прынялі нас вельмі добра, раздзялілі па хатах. Бяды не было. Ого, матушка Расея, багатая, усіх прыняла.

Мы даставалі харчы — казалі, што Англія давала — муку, крупы, таксама абутак. Бацькі памагалі гаспадару, наймаліся на работу. А я зразу за няньку пайшла — прыязджалі па мяне, забіралі. Як людзі зранку ехалі ў поле, то і я з дзецьмі з імі. І так аж да вечара.

### ЛЮДЗІ І ГАСПАДАРКА

Людзі там дружна жылі, сусед суседу дапамагаў. Зямлі было ўдосталь, бяры колькі хочаш і рабі.

Наш гаспадар называўся Сямён, а яго жонка — Нюта. Было ў іх двое дзетак, такіх трох—чатырохгадовых. Сам ён быў сярэдні гаспадар, небагаты. Меў пару коней, мусіць з дзве каровы, стаdtак авечак і курэй. Свіней там ніхто не трымаў. За рэчкай была вёска ўкраінцаў, то тыя свіней гадавалі.

У багацейшых гаспадароў то кароў было і па дваццаць. Стагі хлеба мелі, поўныя свірны. Малацілі машынамі, а не, то зробяць такі каток летам і коні кружка хадзілі па збожжы, вымалочвалі яго.

Лесу там блізка не было, то палілі кізякамі. Рабілі іх так: выкапаюць яму, накідаюць туды парэзанай саломы, гною быдлячага ці конскага, памесяць коньмі, утопчуць. А потым на такіх станках, як для вырабу цэглы, парэжуць, сушаць у скірдах і паляць усю зіму.

Маразы там вялікія, то людзі ў кажухах і шубах хадзілі. А снегу нападае столькі, што купцы ў полі кіраваліся голасам званоў па вёсках, інакш дарогі не знайшлі б. Калі крыху пацяплела, насілі доўгія паліто, вышытыя бісерам — такімі дробненькімі пацеркамі. На свята апраналіся ў шоўк.

І елі добра, пірагі пяклі, мяса ў будзень было. Сеялі найбольш пшаніцу, проса. Жыта мала, але такое добрае зярка, бардовае, салодкае, як быццам віннае. У пост жытнюю муку запарвалі і рабілі з яе саладуху. О, пастоў то там прытрымоўваліся, елі з алеем, ці то з лёну, ці з канапель. Гэтыя расліны там гадавалі, але алею самі не рабілі, толькі мянялі ў фабрыцы. Кашу з проса варылі, дыні. Гарбузы елі.

А картопляў то садзілі ўсяго пару метраў і лічыліся яны такой добрай ежай, як яйкі. Давалі іх толькі гасцям або ў вялікія святы.

### СВЯТЫ

Там народ веруючы, усе праваслаўныя. Не то што ў нас — якіх хочаш знойдзеце. На святы ў царкву хадзілі, дзе правіліся харошыя службы. На ўсеначныя перад гадавымі празнікамі.

На Руздво калядавалі, я таксама бегала па-суседску. Грошай, праўда, нам не давалі, ано напяча гаспадыня такіх пампушак і імі частуе. Ага, гвяздаў там не ведалі, але святыя песні, такія як і ў нас, спявалі.

На Куццю таксама чакалі зоркі. Сядалі мы есці з гаспадарамі постнае, але страваў я не помню.

На Іардан ішлі з хрэсным ходам на рэчку. Там у тоўстым лёдзе прарубаюць крыж і бацюшка свяціць ваду. А перад гэтым хворыя скакалі ў проламку акунуцца ў вадзе. Хутка іх даставалі, завівалі ў шубы і везлі дахаты.

Але тамтэйшыя маразы няшкодныя на здароўе былі, хоць калі ідзеш, то аж іскры скачуць. Лягчэй было вясною застудзіцца і тады хапала ліхарадка.

Перад Вялікаднем бацюшка свяціў пасху, але не хадзіў па вёсцы, як у нас, а людзі неслі яе ў царкву. І ніякіх грошай за гэта не браў.

Гарэлкі там людзі не пілі, адно чай. „Чай пила я, булки ела, позабыла с кем сидела" — запамяталася мне песенька.

### РЭВАЛЮЦЫЯ

Ваявалі саветы з казакамі. У нас было так. Зімою саветы пазбіралі ўвесь дабытак, сагналі да багатага гаспадара, парэзалі і елі да вясны. Тое, што не з'елі, вясною кінулі ў рэчку, бо пачало смярдзець.

Збожжа ад гаспадароў пазабіралі. Голад настаў.

Нашага бацюшку, а з ім і дыякана, вывелі ў поле і застрэлілі. Людзі доўга прасілі, каб дазволілі забраць цела і пахаваць на могілках.

Сусед, які ў бежанстве быў дзесьці аж у Сібіры, казаў, што ў цэрквах збожжа пачалі ссыпаць. Я то такога не бачыла, бо мы, калі там такое чаўплося, сабраліся дадому.

### ВЯРТАННЕ

Выбраліся мы вясною. Заехалі ў Самару, а адтуль нікуды не пускаюць. У разваленых вагонах на станцыі праўжылі мы паўлета. Мы з сабою сухароў набралі, то я бегла, калі станцыйны кацёл кіпеў — па пары пазнавала — і прыносіла кіпяток, у якім мы гэтыя сухары мачылі. Такая была гарачая страва.

Паявіліся хваробы. Людзі, асабліва старэйшыя і малыя, мерлі як мухі. Хадзіла міліцыя і не дазваляла плакаць над памерлымі. Наша мама захварэла на тыф і памерла ў Самары. Там мы яе і пахавалі.

Пад восень прыйшоў дазвол ехаць у Польшчу, бо ўжо тут Польшча была. Вярнуліся мы зноў у Баранавічы. Там нас раздзелі, памылі, вопратку выпарылі. Трымалі нас мусіць з тыдзень, кармілі добра, гарачага супу далі.

Дома былі мы перад Пакроваю. Тата пажыў які тыдзень і таксама памёр ад тыфу. Засталася я з сястрой. Наша гаспадарка ацалела, бо даглядаў яе сусед, калі нас не было. Але я жыла ў хрышчонага. Мела добрую апеку. Толькі што ў Піліпаўку і я захварэла на тыф. Праляжала ўсю зіму, на ногі стала ўжо каля Вялікадня.

**Запісаў Мікола Ваўранюк**
**фота Ніны Адамюк**

# Конкурс беларускай паэзіі і прозы

Працягваецца аб'яўлены два месяцы таму I Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, арганізаваны Рэдакцыяй „Нівы" і Беларускім саюзам пры садзейнічанні Праўлення аддзела Саюза польскіх літаратараў, Праўлення Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" ды пад патранажам Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку. Правілы конкурсу друкавалі мы ў 46 н-ры „Нівы" ад 12 лістапада 1995 г. Прыгадаем, што конкурс праводзіцца ў трох групах:

I — дзеці і моладзь падставовых школ,
II — моладзь сярэдніх школ,
III — дарослыя (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі творчых саюзаў).

Арганізатары не абмяжоўваюць тэматыкі дасыланых твораў. У конкурсе будуць разглядацца працы на беларускай мове.

Аўтарам трэба даслаць у сакратарыят конкурсу машынапіс або разборлівы рукапіс у трох экземплярах. Падборка паэтычных твораў павінна змяшчаць 3—5 вершаў, а празаічных — да аднаго аўтарскага аркуша (г.зн. да 22 старонак стандартнага машынапісу). Конкурсныя працы павінны быць памечаны дэвізам (крыптанімам) і нумарам узроставай групы. Напрыклад, калі вучань пачатковай школы возьме за дэвіз слова *Вярба*, то свае творы павінен ён падпісаць так: **Вярба, I**. Так сама трэба падпісаць канверт, усярэдзіне якога павінна быць картка з імем і прозвішчам (можна назваць школу і клас) ды дакладным адрасам аўтара. Гэты канверт абавязкова трэба заклеіць і з трыма экземплярамі конкурсных прац запакаваць у большы канверт ды даслаць у сакратарыят конкурсу.

Ліцэістам пры сваім дэвізе трэба паставіць рымскую лічбу II, а дарослым — III.

На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах. Арганізатары прыдбалі ўзнагароды вартасцю ў 2000 злотаў. Паэтычныя і празаічныя творы можна дасылаць да 15 сакавіка на адрас сакратарыята конкурсу:

Redakcja „Niwy"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok

з прыпіскай: I Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej. За дэталёвымі інфармацыямі можна тэлефанаваць пад нумар 42-10-33.

Запрашаем усіх аматараў прыгожага слова прыняць удзел у конкурсе і жадаем ім поспехаў.

**Арганізатары**

# У нас, у Семяноўцы...

Наведаў я солтыса вёскі Семяноўка **Рыгора Трусевіча**. Невыпадкова. Гэта ж адна з найбольшых вёсак у Нараўчанскай гміне. Яна на другім месцы — за Нараўкай — па колькасці жыхароў. Пражывае тут каля 600 чалавек. Да Семяноўскага салэцтва належаць: Семяноўка ды тры хутары — Хаміное, Прэнты і Асовае. Солтыс выконвае свае абавязкі ўжо другую кадэнцыю.

— Што навага ў Семяноўцы? — спытаў я солтыса. І пачуў у адказ:

— Ёсць аб чым расказаць. Восенню правялі рамонт памяшканняў нашага асяродка здароўя ды і лекар Яніна Дударык пачала часцей наведваць нашых пацыентаў.

Зараз закончылі абшалёўваць будынак вясковай святліцы. Падключылі яе да школьнай кацельні. Рамантуюць падлогу. У святліцу будуць перанесены кніжкі філіяла гміннай публічнай бібліятэкі, які знаходзіцца ў прыватным памяшканні. Бібліятэка ў нас даволі багатая — яна налічвае звыш 6 тысяч тамоў.

У верасні 1995 года пачалі пракладку тратуара. Аднеслі на абочыну вуліцы тэлефонныя стаўбы. У працы дапамаглі жыхары Семяноўкі, якія маюць уласныя трактары. Да пачатку зімы тратуар быў гатовы да паловы даўжыні вуліцы. Варта дадаць, што ў Семяноўцы дзве доўгія вуліцы і абедзве асфальтаваныя. На прадвесні будуць адрамантаваныя платы, у тым перш-наперш перад поштай і асяродкам здароўя. Вясной пабудова тратуараў будзе закончана. Гмінныя ўлады паклапаціліся пра дастатковую колькасць тратуарных плітак ды парэбрыкаў.

**Янка Целушэцкі**

# БЮРАКРАТЫ

Пры гэтак званай камуне селянін, які меў свой уласны лес, быў вымушаны пісаць прашэнне ў надлясніцтва, каб яно дазволіла яму зрэзаць некалькі штук дрэў, сосен ці елак, на матэрыял ці на дровы для печаў.

Прашэнне селянін пакідаў у гміне (за невялічкай аплатай) і далей ужо гміна турбавалася, каб пераслаць прашэнне ў адпаведнае надлясніцтва для далейшага афармлення.

Потым было весела. Прыязджаў ляснік у вёску і ўсе сяляне, якія падалі прашэнне, ішлі ў лес, каб на сваіх дзялянках вызначыць дрэвы для высечкі. Вяртаючыся дахаты дамаўляліся яны сабрацца ў Івана ці Дзям'яна, кожны браў паўлітроўку, каўбаску ці яйкі і хлеб ды супольна з ляснікам выпівалі, спявалі, а часам і біліся. Усё было добра.

Настала дэмакратыя і некалькі гадоў не трэба было нідзе падавацца, а толькі рабіць на сваім, што каму захочацца. Ад гэтага нейкаму шышцы стала кепска і зноў загадаў селяніну значыць і клеймаваць дрэвы, толькі інакш чым раней.

Цяпер селянін вымушаны заехаць у гміну, узяць бланк прашэння (wniosek цяпер завецца), запоўніць яго дома і самому ехаць у раён, часам нават за 30 кіламетраў, там пашукаць адпаведны пакой, а то два і тры пакуль знойдзеш, потым аддаць прашэнне лесніку і той ужо будзе цябе афармляць да канца. Што ён пакажа, тое мусіш зрабіць у сваім уласным лесе.

Вось якая цяпер палёгка для селяніна — грошы патраціш і дзень змарнуеш. Тут трэба было б запытаць ваяводу, бо праўдападобна ён такія загады выдае. Высылаю вам старое і новае прашэнне. Я запасны чалавек, трымаю паперкі бы для музея і думка мая такая: калі гэта загад ваяводы дык ён дурны, а калі гэты загад выдумаў хто іншы, дык няхай ваявода яго так стукне па галаве, каб яму праяснілася.

**Мікалай Лук'янюк**

У Гарадку і Міхалове

# Не будуюць блокаў...

Жыллёвы кааператыў у Міхалове быў заснаваны 5 лістапада 1967 года. Ініцыятарамі заснавання былі між іншым Станіслаў Пілецкі, Эдвард Савіцкі, Яўген Кузьма, Аляксандр Казлоўскі і Францішак Жывіцкі.

У 1971 годзе кааператыў пачаў пабудову шматкватэрных блокаў у Гарадку.

Зараз Жыллёвы кааператыў у Міхалове мае 350 кватэр у 16 будынках, у тым ліку амаль 200 кватэр у 10 блоках у Гарадку. Ад красавіка 1984 года старшынёй кааператыва з'яўляецца Мікалай Цыванюк.

Ад трох гадоў Міхалоўскі жыллёвы кааператыў не пабудаваў ніводнага шматпавярховага блока. Месца для будовы ёсць, грошай бракуе... Не маюць іх у дастатковай колькасці ні кааператыў, ні ахвотныя на жылую кватэру ў блоку. Цяпер кватэры вельмі ж падаражалі. Цана ў Міхалове і ў Беластоку амаль аднолькавая: за адзін квадратны метр кватэры трэба заплаціць каля 9 мільёнаў старых злотаў. Між іншым таму многія ранейшыя члены жыллёвага кааператыва ў Міхалове ахвотней купляюць сабе кватэры ў Беластоку. У сярэднім кожны год 50 асоб адмаўляецца чакаць на спулдзельчую кватэру ў вышэйзгаданых гмінах.

**(Я. Ц.)**

# Грамадзяне Еўропы

У днях 15—17 снежня 1995 г. у Яблонне каля Варшавы адбылася канферэнцыя з удзелам палітыкаў і вучоных з Еўропы, тэмай якой была справа грамадзянства ў краінах Сярэдняй Еўропы. Арганізатары канферэнцыі — Фонд імя Стэфана Баторыя — стварылі амаль камфартабельныя ўмовы для нарадаў, таму праўдападобна дыскусія больш напамінала свабодны абмен думкамі нейкай масонскай ложы, чым вострыя палемікі, якія найчасцей выступаюць падчас навуковых сустрэчаў.

Першы даклад супрацоўніка Варшаўскага універсітэта Паўла Спевака пра перспектывы пабудовы ліберальнай дзяржавы ў Сярэдняй Еўропе паказваў, што пакуль што такая ідэя можа развівацца толькі як абстрактная палітычная думка без вялікіх перспектываў на яе практычнае здзяйсненне сярод народаў гэтай часткі кантынента. Прынцыпы лібералізму, такія як свабода дзейнасці чалавечай адзінкі, нейтралітэт дзяржавы ў галіне светапогляду і немагчымасць канчатковага акрэслення што з'яўляецца дабром, а што злом, не маюць шанцаў папулярызацыі сярод грамадстваў, якія вымушаны былі жыць ва ўмовах амаль культавага калектывізму. Калі прапала дзяржава, якая была рухавіком калектывізацыйных працэсаў, большасць народаў у пошуках новай формы яднання вярнулася да першапачатковых сувязей — этнічных. Узмацненне гэтых сувязей можа праходзіць пад рознымі лозунгамі: правядзення рэформ, абароны рэлігіі ці нацыянальных вартасцяў перад рэчаіснай ці прыдуманай канкурэнцыяй. Цэлая энергія новых лідэраў канцэнтруецца часам на акрэсленні ворага, бо ў некаторых выпадках надта цяжка яго вызначыць, — сказаў Спявак.

Падчас такога этнічнага яднання вельмі часта паказваецца старых ворагаў іншай нацыянальнасці, рэлігіі, культуры і свае адвечныя пакуты, будучыя паслядоўнасцю існавання тае іншасці. Ніколі не закранаецца дылема ўласных праследаванняў слабейшых народаў, нацыянальных меншасцей. Лозунгі „свабоды", „незалежнасці" адабраюцца толькі тады, калі маецца на ўвазе сваю свабоду і незалежнасць, але адначасова адмаўляецца гэтага самога іншым народам, якія напрыклад з'яўляюцца нацыянальнымі меншасцямі. Амаль усе народы постсацыялістычнай Еўропы маюць такія самыя праблемы са сваім самавызначэннем. Таму ліберальная дзяржава, дзе найважнейшым суб'ектам грамадскага ладу з'яўляецца чалавечая адзінка без розніцы якой яна нацыянальнасці, веравызнання, колеру скуры, палітычных поглядаў, не мае пакуль што ніякіх шанцаў рэальнага заіснавання.

Даклад спецыяліста па міжнароднаму праву, прафесара Здзіслава Галіцкага на тэму грамадзянства ўсвядоміў прысутным, што амаль нідзе ў свеце няма дзяржавы, якая давала б на сваёй тэрыторыі свабоду выбару грамадзянства і што ніякое міжнароднае права не дае ніякае магчымасці ўплыву на палітыку якой-небудзь дзяржавы ў гэтай галіне. Суверэнныя краіны маюць поўную свабоду вызначэння крытэрыяў прысвойвання грамадзянства людзям народжаным за яе межамі, а таксама пазбаўляць грамадзянства тых сваіх грамадзян, якія сталі грамадзянамі іншай дзяржавы.

Прафесар Ульрых Прайс з Нямеччыны расказаў пра працы над падрыхтоўкай заканадаўства для новай формы звышнацыянальнага заходнееўрапейскага грамадзянства. Няма ўжо монаэтнічных народаў. Міграцыі даўно ўжо разбілі тыя структуры, якія былі падставай стварання нацыянальных дзяржаў у XIX стагоддзі. Эканамічная і палітычная інтэграцыя заходняй Еўропы спараджае таксама патрэбу стварэння супольнага грамадства. Існуе такая ідэя, каб іспанец у Нямеччыне меў такія самыя правы як немец і наадварот. Але пакуль што гэта толькі праекты.

Падчас дыскусіі адказны за нацыянальную палітыку Эстоніі Алар Яанус у кароткай форме выявіў, што такія краіны як яго бацькаўшчына ці суседняя Латвія не могуць існаваць як ліберальныя дзяржавы. Колькасць жыхароў расейскай нацыянальнасці ёсць там так вялікая, што ў свабодным галасаванні і пры добрай арганізаванасці ў пэўнай перспектыве часу могуць яны выйграць усе выбары і пасля правесці змены паводле сваіх інтарэсаў, уключна з ліквідацыяй дзяржавы. Таму канстытуцыі гэтых краін будуць абараняць народ як супольнасць, а правы адзінкі, паводле ліберальнага іх разумення, астануцца на другім плане.

Пра народы можам гаварыць тады, — сказаў Ульрых Прайс, — калі атрымаюць яны магчымасць праяўляць сваю волю. Французскі народ, напрыклад, заіснаваў толькі ў канцы XVIII стагоддзя, а стварыла яго ў сапраўднасці рэспубліка, якая дала яму грамадзянскія правы.

Пасол Чэшскай Рэспублікі ў Балгарыі Пэтэр Поспіхаль звярнуў увагу, што асаблівай прыкметай у гісторыі Еўропы пры канцы XX стагоддзя ёсць тое, што адначасова развалiліся тры федэратыўныя дзяржавы, што прывяло да стварэння новых суб'ектаў міжнароднага парадку на нашым кантыненце і адначасова ўслед за гэтым з'явіліся вялікія і малыя праблемы рознага характару. Сярод вялікіх пасол заўважыў югаслаўскую вайну, сярод малых — справу грамадзянства людзей, якія, не мяняючы месца свайго прабывання, раптам сталі чужынцамі.

Былая віцэ-міністр унутраных спраў Чэшскай Рэспублікі Пэтра Сустрава заўважыла, што ўсе славакі, якія хацелі атрымаць чэшскае грамадзянства, маглі яго мець толькі пры такой умове, што не будуць грамадзянамі Славакіі. Няважна, што некаторыя дзесяткі гадоў былі грамадзянамі Чэхаславакіі, працавалі ў сталіцы федэрацыі, але калі не атрымалі новага чэшскага грамадзянства, маюць толькі такія самыя правы як туркі ці пакістанцы, якія па такіх ці іншых прычынах апынуліся на тэрыторыі гэтай краіны.

Больш ліберальны падыход да справы грамадзянства — паводле слоў Маргіты Кутнаровай са Славацкага Хельсінскага камітэта — мае Рэспубліка Славакіі, якой заканадаўства дазваляе чэхам мець падвойнае грамадзянства.

Павел Кгун, чэх, які пражывае ў Славакіі, паводзіны чэшскіх улад акрэсліў амаральнымі. Раней, — гаварыў ён, — паслалі нас — лекараў, інжынераў, настаўнікаў — на працу ў розныя куткі Славакіі. Некаторыя пажаніліся, дачакаліся сваіх кватэраў, а цяпер на бацькаўшчыне лічаць нас чужынцамі, бо атрымалі мы славацкае грамадзянства.

Рэферат Бертальда Іаганеса з Нямеччыны на тэму падвойнага грамадзянства немцаў, пражываючых у Польшчы, усведаміў прысутным, які падыход мае найбагацейшая краіна Еўропы да сваіх суродзічаў. Згодна з законам нямецкае грамадзянства могуць атрымаць толькі тыя грамадзяне Польшчы, якія да 1945 г. жылі на тэрыторыі нямецкай дзяржавы. „Не трэба мець нямецкага грамадзянства, каб адчуваць падтрымку нямецкай дзяржавы", — падкрэсліў вучоны з Гамбурга.

Тры дні дыскусіі, не толькі падчас афіцыйных выступленняў, паказалі, што новы парадак у Еўропе патрабуе зусім новага падыходу да справы грамадзянства. Інакш усё выглядае на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, інакш у Сярэдняй Еўропе, а яшчэ іншыя праблемы з'явіліся на Захадзе. Парадкаванне заканадаўства ў гэтай справе — гэта працэс, які толькі што пачаўся.

**Яўген Міprojановіч**

# Нацыянальныя меншасці ў Літве

У днях ад 8 па 10 снежня 1995 г. у Любеку-Травемюндэ ў Нямеччыне адбылася канферэнцыя, прысвечаная нацыянальным меншасцям у Літве пасля 1945 і 1989 гадоў. Арганізатарамі былі Балтыйская акадэмія (Ostsee Akademie) у Травемюндэ і Паўночнаўсходні нямецкі інстытут культуры ў Лінебургу. У канферэнцыі ўдзельнічалі вучоныя з Нямеччыны, Літвы Польшчы. На працягу трох дзён распрацоўваліся тэмы аб нацыянальных меншасцях у Літве: паляках, яўрэях, немцах. Прысутныя прадстаўнікі нацыянальных меншасцей з Літвы (немцы, яўрэі, палякі) былі жывым доказам іх існавання і дзейнасці ў Літве. На жаль, гэта была далёка не поўная рэпрэзентацыя літоўскіх нацыянальных меншасцей. Апрача вышэйзгаданых нацыяў у Літве пражываюць жа таксама беларусы, татары, караімы, рускія, украінцы. Іх адсутнасць, мабыць, для немцаў уяўляла іхняе неіснаванне, хаця цяжка гэта сабе ўявіць як рэчаіснасць, ведаючы складанасць нацыянальнай праблемы ў Літве. Тэмай канферэнцыі было паказаць сучасную Літву як талерантную, многакультурную дзяржаву. Маю цікавасць выклікала нацыянальная праблематыка Літвы ў Нямеччыне, асабліва даклады Вэрэны Дорн з універсытэта ў Брэме пра яўрэяў у Літве, Артура Германа з Бамэнталя і Рут Кібэльке з Берліна пра немцаў у Літве. Гэтыя дзве нацыянальнасці прайшлі даволі цікавую гісторыю. Яўрэі, найбольш пацярпеўшыя ў час вайны, пасля 1945 г. не маглі прызнавацца да сваёй нацыянальнасці. Літоўскія яўрэі мелі быць забытымі і не маглі прыпамінаць Галакосту. Гэтыя, што засталіся ў жывых, добра адукаваныя, у большасці атэісты. Сярод сёння вядомых яўрэяў у Літве можна ўспомніць пісьменніка Грыгорыя Кановіча і паэта Гірша Ашаровіча. Немцы ў Літве пасля вайны галоўным чынам асталіся ў Клайпедзе. Пасля 1945 года ў Літве было іх каля 15 тысяч. Сёння ў Літве каля 13 тысяч яўрэяў (0,3%) і больш за 2 тысячы немцаў — у Клайпедскім раёне.

Пра палякаў у Літве гаварылі польскія вучоныя Аляксандр Срэбракоўскі з Вроцлаўскага універсітэта і праф. Мечыслаў Яцкевіч з Ольштынскай Вышэйшай педагагічнай школы. Паводле статыстычных даных у Літве пражывае больш за 261 тысячу палякаў. На працягу 5 апошніх гадоў колькасць іх павялічылася на 23 тысячы. Пражываюць яны кампактна ў паўднёваўсходняй Літве. Пасля вайны побач з расейцамі мелі яны самыя спрыяльныя ўмовы для развіцця. Увесь час існавалі польскамоўныя школы, часопісы, касцёлы — асабліва на Віленшчыне. Цяпер у Літве ніводная меншасць не мае столькі газет, што польская („Magazyn Wileński", „Znad Wilii", „Nasza Gazeta", „W Kręgu Kultury", „Kurier Wileński", „Słowo"). Ад 1987 г. існуе Саюз палякаў у Літве. Новымі арганізацыямі з'яўляюцца Кангрэс палякаў Літвы і Выбарчая акцыя палякаў у Літве як палітычная партыя. Пасляваенная савецкая палітыка як мала каму спрыяла захоўванню польскасці. Вялікі уплыў на адраджэнне палякаў у Літве мелі перамены ў Польшчы пасля 1980 года.

Цікава, што літоўскія палякі штодзённа карыстаюцца ў большасці беларускай мовай. Разважанні: „Беларусы ці палякі жывуць ў Віленскім рэгіёне?" былі тэмай майго выступлення. На нацыянальнасць тамашніх жыхароў Віленшчыны асаблівы ўплыў мела польскамоўная асвета, дзейнасць каталіцкага касцёла, а таксама знаходжанне Віленшчыны ў межах Польшчы ў 1921—1939 гадах. Польскамоўнае школьніцтва сярод беларускамоўнага і каталіцкага насельніцтва Віленшчыны ў міжваенны і пасляваенны перыяд прывяло да паланізацыі нацыянальна абыякавых тутэйшых. Адсутнасць беларускіх школ, знішчэнне даваеннай беларускай культурнай эліты і ўстаноў: музея, гімназіі, выдавецтваў у Вільні прывялі да заняпаду беларускасці на Віленшчыне на карысць польскасці насельніцтва. Толькі ў канцы 80-х гадоў здолелі беларусы ў Літве адрадзіцца, ствараючы Таварыства беларускай культуры „Сябрына". Намаганнямі беларусаў Літвы ўдалося развіць культурную і грамадскую дзейнасць. Як сказаў Вітаўтас Толейкіс з дэпартамента нацыянальных меншасцей Міністэрства адукацыі Літвы, „беларусы сёння маюць домікі пры вуліцы Жыгіманту, беларускую гімназію, газету „Наша Ніва". Важнай дзялянкай дзейнасці віленскіх беларусаў ёсць увекавечанне пры дапамозе мемарыяльных дошак выдатных беларускіх дзеячаў Вільні, сярод якіх можна ўспомніць братоў Івана і Антона Луцкевічаў, Францішка Аляхновіча, Браніслава Тарашкевіча, Кастуся і Альбіна Стэповічаў.

Паводле даных у Літве жыве больш за 63 тысячы беларусаў, якія складаюцца з двух групаў: аўтахтоннага насельніцтва паўднёва-ўсходняй Літвы і з перасяленцаў з Рэспублікі Беларусь.

Маё выступленне сустрэлася з зацікаўленнем удзельнікаў канферэнцыі. Ставіліся пытанні наконт адносін літоўскіх улад да беларусаў, беларускай самасвядомасці, ролі Рэспублікі Беларусь у працэсе самавызначэння беларусаў Літвы. Шкада, што сярод прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей з Літвы не стала беларусаў. У кантэксце маёй тэмы важнае было для немцаў (і літоўцаў) раскрыццё розніцы паміж тутэйшымі палякамі і беларусамі, бо польскую меншасць прадстаўлялі Ян Сянкевіч — старшыня Выбарчай акцыі палякаў у Літве і Рамуальд Мячкоўскі — выдавец газеты „Znad Wilii", якім не чужая беларуская мова. І душою яны мне здаліся бліжэйшымі, чым сапраўдныя палякі.

Цікавымі былі таксама выступленні пра вобраз і стэрэатыпы асобных нацыянальнасцей у Літве. Чарговы раз паявіўся „літоўскі комплекс палякаў", што „палякі хочуць далучыць Вільню да Польшчы".

Апошняя частка канферэнцыі была прысвечана многакультурнасці Літвы, якую аставіла па сабе гісторыя.

Сапраўды, склалася ўражанне, што ў шавіністычнай — з польскага пункту гледжання — Літве, намнога лягчэй вырашаюцца праблемы нацыянальных меншасцей, чым у Польшчы. Прытым нямецкая дзяржава дала грошы на правядзенне канферэнцыі ў Любеку, у ландзе Шлезвіг-Гольштэйн, дзе згодна жывуць немцы з датчанамі. Жылі мы і дыскутавалі ў цэнтры „Памор'е", пабудаваным „выгнанымі" з Памор'я пасля 1945 года.

**Лена Глагоўская**

# Як выхоўваем, так і маем!

Калі гляджу на „бушуючых” падлеткаў у цягніках ці на перонах чыгуначных станцый, на іх лексіку, аж верыць не хочацца, што гэта школьнікі, нашыя дзеці, нашая будучыня. Не трэба далёка шукаць прыкладаў неакуратных паводзін школьнай моладзі. Заглянем у Чаромху, у ранішні цягнік, які ад’язджае ў Бельск-Падляшскі а палове сёмай.

Называюць яго „школьны поезд”, бо гэтым цягніком даязджаюць вучні з Чаромхі, Кляшчэляў, Грыгароўцаў і сумежных з чыгуначнымі прыпынкамі вёсак Сухавольцы, Падбелле і Леўкі ў бельскія сярэднія школы.

Гэтым цягніком вымушаны ездзіць і старэйшыя людзі. Асабліва ў чацвер, на рынак. І што мы бачым у час падарожжа? Перш за ўсё крыкі, віскі, безупынная гонка па ўсяму саставу цягніка. Хлапчукі гоняць дзяўчат, а тыя, быццам мышкі ад кошкі ўцякаюць. А прытым нецэнзурныя словы, лаянкі, ды мацюгі.

Аднойчы звярнуў я ўвагу нескальнім падлеткам. Раздаўся насмешлівы рогат і з мімікі твару хлапчукоў я зразумеў адказ: пацалуй нас у задніцу!

Хлапчукі былі мне добра вядомыя. Аднавяскоўцы.

Ды не толькі ў цягніках дрэнна вядуць сябе дзецюкі. Такое ж самае можна ўбачыць на вуліцах, панадворках. На вачах бацькоў! А з іх боку ніякай рэакцыі. Ні татка, ні мамка не звернуць увагі свайму сыночку. Абразяць!

У цягніку Беласток—Чаромха, які ад’язджае з Бельска-Падляшскага пасля 15-ай гадзіны, сітуацыя не лепш маецца. Гэтым поездам вяртаюцца вучні са школы дахаты.

12 снежня вяртаўся я з дачкою з Беластока. З намі ехаў мой сябра, кандуктар, з сынам. Як цягнік не спыніўся ў Бельску-Падляшскім, як у вагон, быццам нейкая саранча, пачалі ўскакваць вучні. Не далі пасажырам выйсці з вагона, а старэйшых жанчын адпіхалі на пероне. Ім трэба заняць месца! Калі цягнік крануўся, пачаўся „канцэрт” маладых хуліганаў (інакш нельга іх назваць).

На „гары” двухпавярховага вагона двух хлапчукоў пачало практыкаваць „бокс”. Трэці палажыўся на плячах і, быццам акрабат, пачаў „танцаваць” нагамі па сцяне вагона. Гледзячы на такія сцэнкі, пытаю сябе: адкуль бярэцца ў дзіцяці столькі непрыхільнасці і непашаны для дарослых? Няўжо гэта прыроджанае?

Паспрабуйма знайсці адказ на тое пытанне. Старшыня Сеймавай Камісіі па справах дзіцяці і сродках масавай інфармацыі Юльюш Браўн, напрыклад, канстатуе, што ў фармаванні свядомасці дзіцяці і рысаў яго характару вялікае значэнне адыгрывае тэлебачанне.

Ужо пяці—шасцігадовы дзяцюк разумее, што абазначае насілле, лютасць і гвалт. А навучыўся таго... ад бацькоў, і з тэлевізара.

Ці ж гэта не мы ствараем у хаце канфліктныя сітуацыі, спрачаемся, а нават неадпойчы даходзіць да рукапрыкладства ў прысутнасці дзяцей?

Ці ж гэта не мы дазваляем дзяцям глядзець розныя „ўэстэрны”, сенсацыйныя і ваенныя фільмы, амерыканскія баевікі? А што яны сабою прадстаўляюць, хто іх героі? Вядома — насілле, лютасць, гвалт і забойства. А героі — гэта цёмныя тыпы з „чорным” характарам. Забойцы ды крыміналісты.

Дарослым такія кінафільмы падабаюцца. Дзеці бяруць з іх прыклад і самі хочуць стаць такімі ж „героямі”. Таму і маем, што маем. Сумнае гэта, аднак праўдзівае!

Каб супрацівіцца ганебным пачынанням падлеткаў, трэба ў контракцыю ўключыцца ўсяму грамадству, а перад усім бацькам, і настаўнікам. Гэта бацькі павінны праявіць большае зацікаўленне тым, чым займаюцца іх дзеці ў свабодны час, дзе і з кім яны прабываюць. Да іх законных абавязкаў належыць выхаванне дзяцей. Тое ж самае тычыцца настаўнікаў у школе, бо школа, гэта другі дом вучня, а настаўнік — другі бацька. Грамадства павінна быць толькі арбітрам паміж аднымі і другімі, паведамляць аб ганебных паводзінах вучняў.

На маю думку, менавіта так павінна рашацца праблема неакуратных паводзін школьнай моладзі. Бо прымаўка кажа: „Які дуб, такі клін, які бацька, такі сын”.

Варта аб гэтым памятаць!

**Уладзімір Сідарук**

*Віктар Ярмалковіч*

# На хвалях жыцця

*(працяг; пачатак у 41 н-ры за 1995 г.)*

### „На родзіну”

Некалькі дзён пратрымалі нас у берасцейскай турме, потым пасадзілі нас у „сталыпінскія” вагоны і павезлі далей на ўсход, на „родзіну” як нам гаварылі. Было цесна і душна. Асталіся мы аж ва Усоллі пад Іркуцкам. Быў дзевяты дзень ліпеня 1950 года.

Ва Усоллі размяшчаліся вялікія лагеры. Людзі расказвалі, што раней прабывалі ў іх палонныя японцы. Цяпер у некаторых лагерах трымалі крыміналістаў, іншыя пуставалі. У пусты змясцілі наш транспарт. Ганялі нас на работу пры будаўніцтве. Было сяк-так, калі працавалі мы самі. Бяда пачыналася, калі прыходзілася працаваць разам з крыміналістамі. У дзевяноста працэнтах былі гэта расейцы. Абкрадалі нас з усяго, што яшчэ захавалася пры нас, а пры гэтым абзывалі нас фашыстамі.

Прыйшоў жнівень. Аднойчы некаторых з нас адклікалі з работы ў лагер. Там ужо чакала грузавая машына. Па спіску пасадзілі нас у грузавік і ў дарогу. Куды нас вязуць? Ізноў нічога нам не вядома. Цяпер не было пры нас стражнікаў, а толькі адзін мгэбіст.

Прывезлі нас у саўгас імя Дзяржынскага і паралі ўладкавацца на работу. Атрымалі мы бланкі з многімі пытаннямі наконт адукацыі, прафесіі і т.д. На другі дзень мяне і Аўгінню вызвалі ў аддзел кадраў. „Вам з вашай адукацыяй няма чаго тут рабіць. Едзьце лепш у горад”, — сказала кіраўнічка аддзела. „То мы вольныя?” — запытала з недаверам Аўгіння. „Так, вольныя. Вось вам спраўкі на пашпарты”, — заявіла кіраўнічка.

На сустрэтай у дарозе машыне даехалі мы ў Іркуцк. Там астанавіліся ў так званай гасцініцы МГБ. Была гэта, здаецца, нейкая спартыўная зала, у якой стаялі нары пры нарах. Начавалі ў ёй жанчыны і мужчыны разам, чалавек каля сотні. Былі там беларусы, літоўцы, латышы, украінцы і трохі расейцаў. Усе між сабою размаўлялі па-свойму, але калі даходзіла да нейкай гарачай спрэчкі, тады ўсе пераключаліся на расейскую мову.

На другі дзень пайшоў я шукаць работу. Усюды, дзе я заходзіў, патрабавалі пашпарт. Аказалася, што каб атрымаць нейкую работу, трэба было мець пашпарт. Падаліся мы тады ў пашпартны стол, але там патрабавалі спраўку з месца работы, бо інакш пашпарт не выдадуць. Адным словам, апынуліся мы ў зачараваным коле. Што рабіць нам — пакінутым у чужым горадзе на волю лёсу — без работы і грошай?

Пайшлі мы ў МГБ. Калі яны нас сюды прывезлі, тады няхай дадуць нейкую магчымасць жыць. Начальнік па такіх справах, малады і прыгожа апрануты ў цывільнае мгэбіст, прыняў нас з насмешкай. Меў да нас прэтэнзію, што не засталіся мы ў саўгасе і пацешыў нас словамі: „Вы умственной работы у нас не получите”. Нічога не дабіўшыся, вярнуліся мы назад.

Старэйшыя жыхары з залы параілі нам звярнуцца да аднаго маёра (прозвішча яго ўжо не помню). Быў гэта пажылы чалавек. Выслухаў ён нас ветліва і спагадліва, а потым напісаў пісьмо ў пашпартны стол. Цяпер пашпарты нам выдалі.

Сталі мы працаваць у будаўніцтве. Насілі цэмент, цэглу, рабілі парадак на пляцы будовы. Згадзіліся на месяц. Меркавалі, што за гэты час спішамся з роднымі, трохі заробім і вернемся на бацькаўшчыну.

Зарплата атрымалася невялікая. Плацілі за зробленае. Тым часам на будове майстры спачатку клалі цэглу, а потым разбіралі ўсё гэта, бо выходзіла, што не робяць яны паводле плана і т.д. Словам, працаваць то мы працавалі, але работы відаць не было, тым больш і грошай.

Цешча, даведаўшыся пра нашае становішча, прадала адзіную карову і прыслала нам грошы. Падаслалі таксама мае браты.

Прайшоў месяц. Пайшлі мы да начальніка аддзела кадраў звольніцца з работы. Спачатку не хацеў ён згадзіцца, адмаўляў нас ад гэтай задумы. „Помніце, — гаварыў ён, — паедзеце туды, а па нейкім часе прывязуць вас назад і тады будзеце ў горшых абставінах, чым цяпер”. Мы ўсё-такі ўпёрліся ехаць. На станцыі падышоў да нас нейкі мгэбіст, яшчэ раз праверыў усе нашыя дакументы. Над’ехаў цягнік. Бывай Іркуцк! Паехалі!

*(працяг будзе)*

---

**МГБ** — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі (па-расейску — Министерство государственной безопасности).
**мгэбіст** — супрацоўнік МГБ.

# З дзённікаў С. Яновіча

**1993 - 08 - 14.**

Выйшла ўжо — *Raj w Wierszalinie, czyli przypadki Eliasza*, кніжка Карпюка ў маім перакладзе (выд. Таварыства *Вершалін*; Слабадзянак). Тэхнічна цалкам нармальна, але з ірытуючымі мяне спольшчаннямі некаторых імёнаў, прозвішчаў, а таксама назваў мясцовасцяў; зроблена гэта за маёй спіною. У такім жа парадку падкарочана дзе-нідзе тэкст.

Кніжку гэту будуць чытаць. Павінна ацішыць яна гвалт у праваслаўнікаў, па сутнасці палітыканскі.

Горш будзе з фільмам Слабадзянка пра Ільлю, у якім шмат грубага (глядзеў яго ў сырым стане, заўчора, у кватэры таго ж С.). Рэжысёр не вельмі хоча слухаць мяне, крычыць: Niech się odpierdolą!.. Неяк палагодзіць успрыняцце фільма беларусамі тое, што зроблены ён надта па-польску, уключна з этнаграфічнымі рэаліямі, і нават хрысціцца па-каталіцку, etc.

Быў у мяне (...) Валодзік Паўлючук (ён даўно ў Кракаве). Як першаадкрывальнік прарока Ільлі, гэтак жа занепакоены дзейнасцю Т. Слабадзянка (нешта нагаварыў яму акцёр Дамулевіч). Паўлючук летнікаваў у сваіх Рыбалах, што за Заблудавам. (...)

**1993 - 08 - 26.**

Час-часом звягаюць дварнякамі тыя бельскія нібы-ўкраінцы. Гэтая дывэрсія слабая кадрамі, збегліся ў Саюз украінцаў Падляшша адны адпадкі з беларускага руху, фруcтраты. (...)

Нічога не будзе з таго Саюзу. Грамадскі культурны рух наогул жа падае; дакладней: вяртаецца ў сваю мар-гінальную аўтэнтычнасць. Дагэтуль трымаўся ён штучна, на *ўколах* з бю-джэтных датацыяў, якія прафесіяна-лізавалі былі ўсякіх аматарскіх ін- структараў. Скончылася дармшчына.

Наша ўкраінства, натуральна, не тармозіць паланізацыі, галава яму за гэта не баліць, а толькі сядае паразітнай амялою на тутэйшую беларушчыну (маштабы якой скромненькія). Таму яно неўзабаве дасягне сваіх мізэрных лімітаў людскіх і застыне. Даю яму яшчэ адзін год імпэту, пакуль наесца васілепадобным неўдалоцтвам, якім немінуча задавіцца. Бо і чаму ўкраінства тут мае быць перспектыўнейшым за беларушчыну? У ім жа тыя самыя аўтахтоны з вядомым характарам.

**1993 - 08 - 30.**

(...) Бліскучы тэкст Вапы ў *Ніве*! Новы сінонім беларуса, **кабатнік** (ад формы *каб*).

**1993 - 09 - 25.**

У Польшчы адбыліся парламенцкія выбары. Трэці ўжо раз беларуская меншасць прайграла, хоць у гэтыя аддала на Беларускі Выбарчы — параўнаўча найбольш галасоў, нешта звыш 10 тысяч. Гэтаксама блізкі ўдачы быў Яўген Чыквін (51 тыс.). Правых упаткала катастрофа; уладу бяруць левыя. Успрымаю ўсё тое, так сказаць, з утомным спакоем.

Увесну — самаўрадавыя выбары. Усё паказвае на тое, што беларусы не прымуць у іх самастойнага ўдзелу, зліюцца з левымі (бо самі яны такія). Беларускі дэмакратызм не выйдзе за рамкі інтэлігенцыі. (...)

**1993 - 10 - 20.**

(...) Пабыў і я — з Таняю — другі раз у той Амерыцы (vide: *Пісьмы з Фларыды* ў „Ніве”). У Пятроўскага на Фларыдзе. Больш не хачу гэтага шчасця! Ледзь датрываў да дзесятага кастрычніка. Спатрэбілася потым дзесяці дзён, каб пазбыцца шоку. Ад кантакту з мужыцкай эміграцыяй; паўпісьменнага Пятроўскага з навыкамі царскага сельскага старасты. Ён нас, папраўдзе, выгнаў ад сябе, зарыентаваўшыся, што друкаванне ягонае *творчасці* ў Польшчы абыдзецца яму даражэй. Такая была яго задума: пакарыстацца дарагім у нас доларам, не ведаючы пра яшчэ вышэйшыя цэны. З абурэннем адкінуў прапанаваны мною фонд успамажэння маладых аўтараў. Толькі антычнасць — і нічога іншага!

(...) Мы не выбраліся б назад з тае Амерыкі, каб не дапамога пазыкаю з боку Кастуся Мерляка, калі мы дабрылі да Нью-Йорка. У холад кідае, калі падумаю пра гэта! Пятроўскі сказаў: не дам ані сэнта, ідзець да польскай амбасады!

Такога мізантропа не часта сустрэнеш.

**1993 - 10 - 27.**

(...) Генік Мірановіч (...) У беларусаў няма духа канфрантацыі. Калі ўзняць буру ў іх карысць, яны кінуцца галавою ў пясок.

**1993 - 11 - 07.**

(...) У святочнай *Gazecie Wyborczej* Часлава Мілаша *Życie na wyspach*. Важная рэфлексія наконт непазбежнасці грамадскае альенацыі пісьменнікаў і мастакоў. Рыхтык адказ Лёніку на ягоны неспакой (паслаў яму выразку). І ўжо цалкам павінна задаволіць яго аўтарскае самалюбства эмісія амаль гадзіннага дакументальнага фільма Уладарчык аб ім (9-га, I прагр. TV, 23.35 — 00.20). Добрая кінаработа, бо добры з яе рэжысёр.

**1993 - 11 - 14.**

Хоць і нядзеля сёння, дакончыў *Неўдалоту*. Цісну мус. Бракуе матэрыялу на літаратурную старонку *Белавежа*, якой рэдактарам давялося цяпер стаць мне. Слабыя аўтары шмат пішуць, але на ўзроўні Парнасіка ў „Ніве”. Ёсць некалькі добрых, але ад іх рэдка калі што атрымоўваю. І так ужо будзе. Не трэба нікога, барані Божа, падштурхоўваць, так лічу, бо ад спеху кепская якасць тэкстаў. На паўтары сотні тысяч польскіх беларусаў не так ужо і мала сапраўдных пісьменнікаў. (...)

**1993 - 12 - 06.**

(...) З’явіўся I том *Уліса* ў перакладзе Макса, вельмі важная для беларускай літаратуры кніжка. Дбайліва падрыхтаваная да друку.

Аб’явіўся цікавы паэт, адразу і надта спелы: Міхась Андрасюк з Гайнаўкі. Свежыя метафары, небанальныя рыфмы. Рыхтую яму дэбют, у студзеньскай старонцы *Белавежы*. (...)

**1993 - 12 - 26.**

*Kiedyś nawet specjalnie poduczałem się białoruskiego, by czytać Janowicza (...), zresztą dla Polaka białoruski nie jest właściwie obcym językiem. I warto było —* Piotr Kuncewicz, *Poezja polska*, t. III, str. 550

*(працяг будзе)*

**Зорка**
**СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**



Вучні са сваімі настаўнікамі.

# У Новым Корніне

*Добры дзень, „Зорка"!*

*Мы вучымся ў чацвёртым класе Пачатковай школы ў Новым Корніне. Хочам Табе напісаць пра нашую школу.*

*Будынак нашай школы вялікі і новы, але колькасць вучняў невялікая. Усе класы ў нас спалучаныя. Мы вучымся з трэцім класам. Усе вучні нашай школы вучацца беларускай мове. У нашую школу ходзяць дзеці з розных вёсак: Катоўка, Новае Корніна, Васількова, Трывежа, Чыжыкі.*

*Мы любім заняткі ў нашай школе. Пра цікавыя здарэнні з жыцця нашай школы будзем пісаць Табе лісты.*

Так пісалі нам вучні IV класа. Пра ўсё гэта я пераканалася асабіста, калі нядаўна гасціла ў Новым Корніне і мела гонар бліжэй пазнаёміцца з моладдзю, дзецьмі, настаўнікамі. „Зорку" прынялі тут па-святочнаму. Дзеці апрануліся ў святочныя строі, настаўнікі частавалі смачнымі пірагамі і бутэрбродамі. Быў якраз зімовы халодны дзень, але ў школе панавала цёплая, сардэчная атмасфера.

— Школу пабудавалі нядаўна, — абвоздзіць мяне па двухпавярховым будынку пані дырэктар Іаанна Алексяюк. Многія залы яшчэ не абсталяваныя. У школе пустуюць дзве кватэры для настаўнікаў.

— Можа ў будучыні ўдасца нам прынязць на работу настаўніка англійскай мовы, — гаворыць пані дырэктар. Зараз працуе тут шэсць настаўніц і ўсе яны даязджаюць з Гайнаўкі.

— Невялікая школа мае многа сваіх станоўчых прыкмет, — гавораць настаўнікі. — Усіх можна дагледзець, прапытаць нават два разы на адным уроку.

Сустрэча з вучнямі і беларусісткай Нінай Куптэль была таксама вельмі сімпатычная. У Новым Корніне вучыцца Аня Кіцаль, карэспандэнтка „Зоркі".

Ніна Куптэль пазнаёміла мяне са сваімі выдатнікамі. У школе вельмі многа вучняў, якія любяць і шануюць родную мову.

— У нас заўсёды ўсе вучні наведвалі ўрокі роднай мовы.

Бацькі нашых дзяцей ніколі не прыходзілі ў школу і не гаварылі, што ім родная мова непатрэбная. А так здараецца ў іншых школах, — гавораць настаўнікі. Многа пахвал сказалі яны ў бок бацькоў сваіх навучэнцаў.

— І школа, у якой працуем, паўстала дзякуючы нястомным стараннем бацькоў. Без іх не было б гэтага будынка. Зараз таксама актыўна дзейнічаюць у бацькоўскім камітэце.

У Новым Корніне ўсе вучні старэйшых класаў чытаюць „Зорку". Многія з іх дасылаюць нам свае лісты. Апошнім часам карэспандэнтка Аня Кіцаль даслала чароўную падляшскую калядку, якая называецца „Зорка". Вось яе словы:

*Гэн высоко в сінім нэбі*
*Зорка засіяла,*
*Плыла, плыла між хмарамі*
*Над вэртэпом стала.*

*Маті сына породіла,*
*В яслях положыла,*
*Чыстым сіеном прытрусіла*
*Пеленамі вкрыла.*

*Прылетіелі до вэртэпу*
*Ангелы крылаті,*
*Посідалі, заспівалі*
*Малому дітяті.*

*Слава, слава в вышніх Богу,*
*Слава Рожджэному,*
*Слава, слава в вышніх Богу,*
*Дітяті малому.*

Аня адзначыла, што ўсе яе сябры пойдуць калядаваць і будуць спяваць гэтую калядку. Шкада толькі, што з калядкай не завіталі ў нашу рэдакцыю.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Карэспандэнтка „Зоркі" Аня Кіцаль (злева) і Аня Раманюк — дэкламатарка.*




**Дарагая „Зорка"!**

Да Цябе, мілая „Зорка", піша шмат вучняў з розных школ. Мы, вучні V-га класа Пачатковай школы н-р 3 у Гайнаўцы, таксама не хочам быць горшымі. У нас ёсць Табе пра што расказаць. 21 лістапада 1995 г. у нашую школу прыехаў доўгачаканы намі госць — беларускі паэт, „белавежац", паважаны Віктар Швед. З паэтам, апрача нашага класа, сустрэліся таксама іншыя вучні, якія вывучаюць беларускую мову. Трэба з сорамам прызнацца, што не ўсе мы чулі пра Віктара Шведа, не ўсе знаёміліся з яго вершамі. Аднак, пасля сустрэчы, усе мы рашылі чытаць яго вершы, тым больш, што ў большасці яны пісаны для нас, дзяцей. Віктар Швед расказаў нам амаль пра ўсё: пра сваё асабістае жыццё, пра свой творчы шлях, пра свае планы на будучыню.

Гэта вельмі цікавы, мілы, сардэчны чалавек. Усе мы яму зычым шмат здароўя, шчасця і далейшых поспехаў у яго працы.

Каб замацаваць памяць аб гэтай сустрэчы, мы купілі яго зборнікі вершаў, абавязкова з аўтографам і пажаданнямі паэта. Нам вельмі хочацца, каб у нашай школе было ўсё больш і больш такіх цікавых сустрэч.

З сардэчнымі пажаданнямі —

**вучні V класа**
**гайнаўскай „тройкі".**

## Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 2

CÓRECZKA ↓
NIEBYT ↓
DOKUMENT ↓
BANAN ↓
WIGILIA →
RÓZGA ↓
PASTERZ OWIEC →
MUZYKA →
NIEDŹWIEDŹ KTÓRY NIE ŚPI ZIMĄ →
JANKA ↓
← JAK
CHRUST ↓
CAR ↓
ŚMIAŁEK ↑
METR →
✱

* Наш слоўнік.
ШАТУН — niedźwiedź który nie śpi zimą
НЯБЫТ — NIEBYT.
ЛОМ — CHRUST

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу двух тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем узнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 10: ліфт, ігра, рака, літр, міг, фрак, літара.

Узнагароды — аўтаручкі (cienkopisy) — выйгралі:

1) Анна Садоўская з Нарвы, 2) Эміля Петручук з Сапава, 3) Юрка Гуль з Бельска-Падляшскага, 4) Марцін Тапалеўскі з Кленік, 5) Пятрусь Янкоўскі з Бельска-Падляшскага, 6) Марцін Мялешка з Катоўкі, 7) Анэта Садоўская з Беластока, 8) Аня Селеванюк з Шастакова, 9) Аня Саеўская з Кленік, 10) Марцін Сельвясюк з Махнатага.

Віншуем!



Талон "Зоркі" н-р 2
14.01.1996

З гісторыі Беларусі

## Альгерд

Альгерд быў сынам Гедыміна. Большасць свайго жыцця правёў ён у Віцебску. Пасля смерці Гедыміна вялікакняскі пасад апынуўся ва ўладанні аднаго з баяр — Яўнуты. У 1345 г. Альгерд пры дапамозе свайго брата, князя Кейстута скінуў Яўнуту і сам заняў бацькоўскі трон. Быў ён уладальнікам вялікай краіны, якую стараўся пастаянна пашыраць ва ўсіх напрамках. Падчас яго панавання да Вялікага княства Літоўскага былі далучаны Кіеўская, Чарнігаўская, Бранская, Падольская, Амсціслаўская землі. Такім чынам вялікі князь падпарадкаваў сабе большасць Украіны. Змагаўся такама з Польскім і Угорскім каралеўствамі за ўладанне на тэрыторыі Уладзімірскага княства. Не спынялася таксама, падчас яго панавання, вайна з крыжакамі. Двойчы Альгерд разбіў крыжакоў — у 1348 і 1370 гадах і паўстрымаў гэтым самым іх паход на беларускія землі. Беларускае войска пры яго панаванні тройчы ў 1368, 1370 і 1372 гадах даходзіла да муроў Масквы, па дарозе разбіваючы палкі маскоўскіх князёў.

Пашырэнне межаў беларуска-літоўскай дзяржавы на поўдзень давяло да сутыкнення з крымскімі татарамі, якія стварылі магутную дзяржаву на поўнач ад Чорнага мора. У 1362 г. беларускае войска ў бітве каля ракі Сінія Воды разбіла татарскія арды і вызваліла ад іхняга панавання ўсходнюю Украіну.

Альгерд учыніў сваю краіну адной з наймагутнейшых у Еўропе. Вялікага князя шанавалі ўсе суседзі — палякі, маскоўцы, татары і крыжакі. Але не самая армія была асноўнай сілай князя, а перш за ўсё яго разважная палітыка.

Альгерд закончыў свой жыцёвы шлях у 1377 годзе.

Вучнёўская творчасць

## Літаратары

Наталля Арсеннева — „Магутны Божа",
Якуб Колас — „Новая зямля",
Сяржук Сокалаў-Воюш — „Спадчына".
А што напішу я?

Янка Купала — „А хто там ідзе?"
„Тарас на Парнасе" — ананімны твор гэта,
Мікола Гусоўскі — „Песня пра зубра".
А што я напішу? „Лета"?

Яны — пісьменнікі,
Абаронцы беларускай мовы,
А я — вучаніца пачатковай школы.
Яны пішуць пра Айчыну
А я пра іх, пра Радзіму.

**Аня Садоўская,**
**вучаніца VII класа**
**Пачатковай школы ў Нарве**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне, Аня!

Твой верш незвычайны. Цешыць мяне, што карыстаешся самымі выдатнымі прыкладамі беларускай літаратуры. Без гэтага немагчыма пісаць добрыя вершы. Верш „Мая маці" надрукуем перад Святам маці.

З-ка

*Сябры "Зоркі" з Нарвы. Разам з моладдзю стаіць Ніна Абрамюк — новы метадыст па беларускай мове. Другая справа — Аня Садоўская.*
**Фота Ганны Кандрацюк**

## Легенда пра вёску Снежкі

Гэтую легенду я пачула ад сваёй каханай бабулі **Ганны Шатыловіч** з вёскі **Снежкі**. Мая бабуля святкавала нядаўна сваё сямідзесяціоддзе з дня нараджэння.

Была калісьці вёска Калейчыцы. Побач вёскі стаяў двор, у якім жыў пан Мачульскі. Вёска была пабудавана на яго зямлі. Пан Мачульскі быў вельмі скупы для вёскі, за працу сялян плаціў мала.

Аднойчы рашыў ён перасяліць вёску ў іншае месца, на горшую зямлю. Вёску перанеслі на пясчаны ўзгорак. Было гэта зімой, усюды было многа снегу. Вёску на новым месцы назвалі **Снежкамі**. І так яна называецца па сённяшні дзень.

У даліне на месцы Калейчыц астаўся толькі двор з вялікім садам. Калі ў двары пачала рукаводзіць пані Лявіцкая, гаспадаранне ёй не ўдавалася. Прадала яна зямлю гаспадарам. У 1939 годзе пані Лявіцкая выехала ў Варшаву.

Цяпер двор стаіць пусты, расце там толькі вялікі сад, а на могілках знаходзіцца магіла Станіслава Мачульскага. Летам я і мае сябры вельмі любім гуляць у гэтым садзе.

**Іаанна Якімюк,**
вучаніца кл. V „е"
бельскай „тройкі"

### Каты-музыкі

Тра-та-та,
Тра-та-та!
Была трубка у ката,
У ката Стракатага.
А у паласатага,
Вурката вусатага
Былі бомы, тарабан,
І гармонік, і баян...
Ну а белы кот Сняжок
Меў жалейку і ражок.
Рыжык — скрыпку, гуслі, звон...
Як зайгралі на ўвесь дом!!!
Сёння йграе грамафон,
Бо калі каты зайгралі,
Усе вушы затыкалі
Або беглі стрымгалоў
Ад натхнёных джаз-катоў!

**Міра Лукша**

Пішуць школьнікі

### Дарагая „Зорка"

Я — вучаніца VII класа Пачатковай школы ў Курашаве. Хачу расказаць Вам пра тое, як я стала адной з лепшых спартсменак Гайнаўшчыны. Усё пачалося з таго, што я трохі лепш бегала за мае сяброўкі. Настаўнік па фізкультуры Збігнеў Клім запісаў мяне на спаборніцтвы Гайнаўскага раёна ў бегах на 1500 м. Я бегала два разы ў тыдзень па дыстанцыі 1500 м. Спаборніцтвы мелі адбыцца 28 кастрычніка 1995 г. Калі я з настаўнікам заехала на стадыён у Гайнаўку, там было многа дзяўчат, недзе каля сарака асоб. На стадыёне былі знаёмыя дзяўчаты з Чыжоў. Я была вельмі рада, калі на мэце апынулася на трэцім месцы. Дзяўчыны, якія занялі тры першыя месцы, дасталі прыгожыя дыпломы. Праз чатыры месяцы мяне чакаюць ваяводскія спаборніцтвы ў Беластоку.

**Яся Сегень**
**в. Камень**

**Ад рэдакцыі:** Яся! Віншую з перамогай. Маю надзею, што ў ваяводскіх спаборніцтвах таксама табе пашчасціцца. Мне вельмі прыемна, што ты напісала пра сваю радасць.

*Сямі- і васьмікласнікі з Курашава з а. Яўгенам Сушчам. Другая справа стаіць Яся Сегень.*
**Фота Ганны Кандрацюк**

## Новыя сяброўкі

Мартынка і Кандрат жывуць у маленькай вёсцы недалёка ад Белавежскай пушчы. Наўкол іхняга дому квітнее каляровы луг, за гэтым духмяным лугам хвалююцца на ветры і залацяцца ў сонцы нівы пшаніцы і жыта. А далей — у сваё нетры запрашае лес. Сярод сосна͞ў і ялін бялеюць ствалы бяроз, у голлі дубоў і вольх звіваюць свае гнёзды тысячы птушак.

Аднойчы раніцай Мартынка і Кандрат завандравалі ў Свой Лес праверыць, ці ўжо даспелі чарніцы і суніцы. Мама дала ім на дарогу два вялікія бутэрброды з жоўтым сырам, каб дзеці маглі без голаду даўжэй пабыць у лесе — на свежым паветры расце апетыт! Мартынка паклала бутэрброды на пянёк і пабегла шукаць ягад. Брацік хацеў узлезці на самае высокае і тоўстае дрэва, але паколькі яму не ўдалося туды ўзабрацца, далучыўся да сястры.

У той час... Дзвюм мышкам, якія мелі кватэру на Сунічнай паляне, закруціў у носіках пах смачнага сыру і свежага хлеба. Ціхенька падкраліся да пянька і ўзяліся каштаваць смакоцце. Так заняліся банкетам, што не прыкмецілі дзяцей, якія, згаладалыя, вярнуліся па свой сняданак. Кандрат хутка накрыў мышак шапкай. Бедныя істоткі спужаліся цемры і заплакалі...

— Мышкі, маленькія мышкі, — пачала супакойваць іх Мартынка, — не бойцеся нас! Мы вас не будзем крыўдзіць! Толькі вельмі просім, не ўцякайце! Мы хочам з вамі пазнаёміцца, пасябраваць з вамі...

Што аставалася мышкам? Толькі паверыць у словы дзяцей. Кандрат падняў шапку і вызваліў спацелых ад страху лясных жыхарак.

— Я — Кандрат, — прадставіўся мышкам. — А гэта мая старэйшая сястрычка Мартынка. Калі ласка, далей снедайце.

— Я — Іся, — рушыла вусікамі мышка ў зялёных у белыя крапінкі фартушку і хустачцы.

— А я — Марыся, — сціпла паправіла чырвоны ў крапінкі фартушок другая мышка. — Ідзём, пакажам вам, дзе найбольш сакавітых і буйных ягад.

Дзеці са смехам пабеглі следам мышак, якія мігам памчаліся ў бок Чарнічнай паляны. Салодкія суніцы чырванелі ўсюды, а вялізныя чарніцы цяжка віселі на галінках і аж прасіліся ў роцік.

Новыя сябры Ісі і Марысі нае́ліся ягад удосталь і назбіралі іх поўныя вядзеркі. Прыйшоў час ісці дадому. Мышкі засумавалі. Мартынка, каб іх суцешыць, дала Ісі і Марысі свае чырвоныя банцікі і абяцала, што часта будуць наведваць Сунічную паляну.

— Я вельмі рада, што ў нас ёсць сябры — чалавечыя дзеці, — сказала Іся сястры. — І не пакрыўдзілі нас, як часта бывае... Заўтра пачастуем іх настоем траў і арэшкамі...

Мартынка з Кандратам нікому нават слова не піснулі пра сваю лясную прыгоду. Гэта была іх Вялікая Тайна.

**Аліна Леанеўская**

# НОВЫ ГУРТ „АДА"

По Беластоцкім радыё можна цяпер даволі часта пачуць беларускія калядкі ў выкананні невядомага раней калектыву „Ада". Уражвае, перш за ўсё, прыгожы голас салісткі і яе чыстае беларускае вымаўленне, без ніякага чужога акцэнту.

Аня Антушэвіч — студэнтка чацвёртага курса педагогікі Беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта. Сама яна родам з Гродна, але жыве ў Беластоку.

— Усё маё жыццё звязанае з музыкай. Я з дзіцячага садка хадзіла ў музычную школу, спявала, іграла на акардэоне. Цяпер спяваю ва універсітэцкім хоры і ў гурце „Садко", які іграе ірландскую, або лепш сказаць шырэй, кельцкую музыку.

Андрэй Садоўскі яшчэ нядаўна іграў у гурце „Ас".

— Я ў музычнай школе не вучыўся. З музыкай спаткаўся дома. Мой дзед іграў, бацька таксама, ну і я пры іх навучыўся.

Трэцяга музыку, Дарка Каменніка, не трэба было шукаць, „сам знайшоўся", паводле Ані:

— Гэта мой муж. Мы з ім разам іграем у гурце „Садко". Ён канчае архітэктуру ў Беластоцкай політэхніцы. Я часам здзіўляюся, як яму гэта ўдалося, бо кожную свабодную хвіліну аддае музыцы. Ён захапіў мяне кельцкай музыкай, я яго — народнай беларускай. Зрэшты, дзякуючы музыцы мы і пазнаёміліся. Спачатку гурт мужа называўся „Wind Rose". Яны шукалі акардэаніста і так я стала разам з імі іграць. Потым састаў групы крыху змяніўся і мы памянялі назву. Цяпер яна карацейшая, больш выразная, ну і вядома, хто гэта Садко — казачны герой, багатыр, але заадно і гусляр, музыкант. Ёсць у нас ужо пэўныя поспехі, выйгралі мы мінулагодні фестываль „Korуść", таксама на фестывалі „Piosenka żeglarska" ў Мікалайках узялі першае месца.

Назоў „Ада" стварылі першыя літары імён музыкаў. Зышліся яны з думкай запісаць касету беларускіх народных песень. Аднак хутчэй паявілася касета з калядкамі.

— Працавалі мы над ёй дзесьці месяц, — кажа Андрэй. — Потым шукалі кагосьці, хто б нам яе выдаў. Ну і запісалі касету ў студыі фірмы „Green Star", якая і займаецца яе распаўсюджваннем і папулярызацыяй на Беластоцкім радыё.

Цяпер працуюць яны над тым, што было галоўнай прычынай стварэння гурту — над беларускімі народнымі песнямі.

— Гэта будуць і добра вядомыя ўжо песні, — кажа Аня, — і, мабыць, на Беласточчыне новыя. Ну, для прыкладу: „Гарэла сосна", „Ехаў Ясь на кані", „Кацілася чорна галка", „Ой ляцелі гусі з далёкага краю". Мы хочам, каб гучалі яны як мага больш традыцыйна, па-народнаму. Хаця, вядома, трэба ўлічваць, што з такіх інструментаў як „Roland" народнае гучанне цяжка выцягнуць. А песні будуць і вясёлыя, і некаторыя лірычныя, для душы.

— Яшчэ не ведаем, калі касета будзе гатовая, — кажа Андрэй, — пастараемся дапрацаваць яе як найхутчэй. Не ведаем таксама, дзе яе запішам. Будзем пра гэта думаць, калі яе дапрацуем.

Магчыма, што „Аду" зможам пабачыць і пачуць на сёлетнім агліядзе беларускай песні. А можа і ў наступных гадах.

— Мы хочам, каб наш гурт быў адназначна беларускі, — здраджвае планы на будучыню Андрэй, — з чыстай мовай, такой, каб ад нас магла вучыцца моладзь. Аня можа гэта зрабіць найлепш сваім цудоўным голасам.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**



*Аня і Андрэй: ствараем адназначна беларускі гурт.*

# Пашыраецца беспрацоўе сярод настаўнікаў

*Працяг са стар. 1*

няцце пачатковых школ можа стаць для іх невыносным цяжарам. Каб пазбегнуць банкруцтва, ад 1 верасня гэтага года ўлады гэтых гмін, на жаль, пастановяць звольніць нямала настаўнікаў, зліквідуюць некаторыя класы-аддзелы і малыя вясковыя школы, а ў гарадах — некаторыя дзетсады. Калі аднак нейкая гарадская ці вясковая гміна мае дастаткова грошай, то — на маю думку — нямала добрай волі трэба будзе патрабаваць ад бурмістраў, войтаў і радных, каб тыя накіравалі фінансавыя сродкі на адукацыю. Вядома ж, сёння замацоўваецца культ грошай, а асвета адразу не дае гаспадарчага прыбытку. „Szmal", асабліва на правінцыі, хутка падпарадкоўвае сабе чалавечыя пачуцці ды грамадскую свядомасць. Клопаты некаторых пра духоўныя каштоўнасці, якія павінна несці і замацоўваць публічная адукацыя і выхаванне пераломy XX і XXI стагоддзяў, нярэдка ў нас успрымаюцца як гутаркі „sobie a muzom" або як звычайныя жарты. Не трэба дзівіцца, што ў цяперашні час каля духоўнага вогнішча засталіся толькі нешматлікія, але затое сапраўдныя ідэалісты.

Паводле інфармацыі Куратoрыі асветы ў Беластоку, 455 настаўнікаў у ваяводстве шукае працы. Сярод беспрацоўных ёсць настаўнікі звольненыя падчас ліквідацыі школ і класаў, асобы, якія на працягу апошніх гадоў перасяліліся ў гарады ці іншыя мясцовасці, не знаходзячы працы згодна са сваёй прафесіяй, а таксама тыя, што вярнуліся з працяглай пабыўкі ў краінах Захаду.

Значная колькасць выпускнікоў педагагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў не рэгіструецца, бо ведае, што і так у асветных установах няма ім працы. У навучальным годзе 1995/96 працу атрымалі ўсяго 101 малады педагог.

У радах беспрацоўных найбольш настаўнікаў пачатковага навучання, хімікаў і гісторыкаў. Занятак у школах на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства найхутчэй знойдзецца настаўнікам заходніх моў, а таксама паланістам, матэматыкам і настаўнікам вузкіх прафесіянальных спецыяльнасцей. Каб у гэтых выпадках не заставаліся вакантныя этаты, Куратoрыя дае згоду на працу для настаўнікаў з няпоўнымі кваліфікацыямі, а нярэдка і для пенсіянераў.

1 027 настаўнікаў у ваяводстве сёння завочна вучыцца ў вышэйшых установах, змяняе або павышае кваліфікацыі. Пэўным парадоксам з'яўляецца хіба тое, што найбольш педагогаў-студэнтаў выбрала сабе якраз пачатковае навучанне.

Адведаў я нядаўна Раённае ведамства працы ў Бельску-Падляшскім, якое сваім дзеяннем ахоплівае горад Бельск і гміны: Бельск, Орля, Боцькі, Вышкі, Браньск і Рудка (такая раней была тэрыторыя Бельскага павета). Атрымаў там я даныя, якія гавораць, што без працы на Бельшчыне застаюцца актуальна 74 педагогі, пераважна настаўнікі пачатковага навучання (19 асоб), дашкольнага навучання ў дзетсадах (10), настаўнікі фізкультуры (7) і школьныя педагогі (7).

З заканчэннем навучальнага года 1994/95 у бельскім асветным раёне перастала функцыяніраваць Пачатковая школа ў Дубяжыне. З 6 настаўнікаў 5 атрымалі сталую або часовую працу ў іншых школах, а толькі адной асобе ў лютым закончыцца шасцімесячны т.зв. нядзейсны стан (на працягу паўгода звольнены настаўнік атрымлівае поўную настаўніцкую зарплату).

Невядомае і шмат зразумелага неспакою спараджае самаўрадавая будучыня пачатковых школ. Прыкладна, з гміны Боцькі плывуць весткі пра патрэбу ліквідацыі школ у Красным Сяле і Нурцы. Працуе там разам 25 асоб (з настаўнікамі Закону Божага і нулявых аддзелаў ды прыбіральшчыкамі). У гэтых дзвюх школах — „тысячагодках" добрыя ўмовы працы — ёсць дастатковы лік класаў-кабінетаў, тэхнічнае абсталяванне, святліца (у Нурцы), кухонная база, кватэры для чатырох настаўніцкіх сем'яў. Побач школьных будынкаў размешчаны пляцоўкі для футбола, баскетбола, валейбола, ёсць лёгкаатлетычныя беговыя дарожкі. Цікавае таксама з батанічнага і экалагічнага пункту гледжання акружэнне школ. Абавязкова яшчэ трэба падкрэсліць і тое, што ў Красным Сяле і Нурцы вядзецца навучанне беларускай мове. Толькі дзетак мала — адпаведна 53 і 40. Магчыма, што з 1 верасня 1996 года гмінны аўтобус вучняў з Краснага Сяля, Пасекі, Малочкаў, Шашылаў, Быстраў, Нурца і Дубна пачне вазіць у Боцькі, а другі аўтобус — з Дыдуляў у Маліннікі або ў Орлю. Гэтым спосабам у паасобных класах нязначна павысіцца лік дзяцей, а настаўнікі з ліквідаваных школ апынуцца... па-за школай. Усё-такі з увагі на яшчэ адлеглы тэрмін заканчэння пабудовы новай школы ў Боцьках трэба мець перакананасць, што намер ліквідацыі пачатковых школ у Красным Сяле і Нурцы не знойдзе рашучай падтрымкі.

**Юры Баена**

# За што людзі змагаюцца

Завуць мяне Якаў Грыгарук. Нарадзіўся я ў 1912 годзе. Праз два гады пачалася першая сусветная вайна. У яе пачатку мой бацька быў прызваны ў царскую армію і высланы на фронт. Маці была перакананна, што ад немцаў трэба ўцякаць. Запрагла яна тады палахлівага коніка ў драўляны воз і паехала з дзецьмі (я быў наймалодшы ў сям'і) на ўсход, у Расію. У нашай вёсцы засталося ўсяго пяць гаспадароў, якія не ўцяклі або неўзабаве вярнуліся назад. У Расіі папалі мы ў Вязьму. Там бежанцаў прымалі вельмі сардэчна, а расіяне трактавалі нас пасямейнаму. Хапала нам усяго: і хлеба, і да хлеба. У 1917 годзе ўспыхнула рэвалюцыя, прыйшоў складаны час. Бывала так, што ў адзін дзень прыходзілі і бальшавікі, і белыя. Потым жыццё неяк стабілізавалася і я ўпершыню пайшоў у школу. Там задарма атрымаў сшытак, алоўак і кніжку, а настаўнік вучыў роўна пісаць першыя літары ў кратках. У сталовай давалі нам лусту хлеба і міску супу.

У 1921 г. вярнуліся мы ў сваё Дубічы-Царкоўныя, на бацькоўскую гаспадарку. Панавала тут такая страшэнная бяда, што нават не было чаго ў рот пакласці. У чым жа гэтых пяць гаспадароў, што засталіся на месцы, маглі дапамагчы вярнуўшымся бежанцам, калі і самі гаравалі. Штодзень праз вёску праходзілі жабракі і прасілі хаця б адну бульбіну або жменю збожжа. Запамяталася мне, што гаспадыня даставала з пограба картофлю, кроіла яе на дзве або чатыры часткі і абдзяляла імі жабракоў, якіх хадзіла тады мноства.

Мой бацька пасля вяртання з вайны хадзіў да гаспадароў на заробак: малаціў збожжа цэпам. За цэлы дзень малацьбы даставаў фунт жыта. Тады па вёсках не было ні кароў, ні коней, бо ўсю жывёлагадоўлю знішчыла вайна. Каб не памерці ад голаду, трэба было брацца за любы занятак. Мяне аддалі ў пастухі ў Высокае-Мазавецкае. Пасвіў я кароў тры гады ў двух гаспадароў, за што атрымоўваў харчаванне і вопратку. Многія наймаліся ў такі спосаб як я, каб толькі пераежыць. Дарослы парабак, калі даставаў яшчэ адзін—два пуды жыта, быў ужо і задаволены. А людзі ў гэтай ваколіцы жылі добра (палякі ў бежанства не падаліся). Мелі яны добра апрацаваныя палі, статкі кароў і свіней, у нядзелю запрагалі пару коней у брычку і ехалі ў касцёл. Да парабкаў ставіліся яны непрыхільна.

Вярнуўся я ў родную вёску тады, калі бацькі пасадзілі некалькі загонаў „прошанай" бульбы. Мне трэба было яшчэ хадзіць у школу, бо закон загадваў вучыцца да 14—15 гадоў жыцця. У школе больш увагі настаўнікі адводзілі фармаванню з гліны качак, баранчыкаў, козлікаў, чым граматыцы. Гаварылі, што дастаткова, калі вясковае дзіця сумее палічыць, колькі каштуе пара яек. У школе былі толькі чатыры класы. Вучыліся мы ў гэтым самым будынку, у якім і цяпер змяшчаецца школа. Гэта царскі будынак.

Да вайны за дрэвам трэба было ездзіць у Белавежу і за ўсё плаціць. А калі не было грошай, дрэва трэба было красці, за што пагражаў суд у Белавежы. Калі скончылася мне 16 гадоў, мы са старэйшымі сябрамі паехалі ў лес. Там леснік сказаў, што будзе ён стаяць на трыбе і выпісваць асігнацыі. Пагрузілі мы свае вазы дубовым голлем і сталі ехаць дадому. Сонца заходзіла, а лесніка ў дамоўленым месцы не было. Выпашылі мы тады пакарыстацца нагодай і паехаць без асігнацыі. За Вілюкамі спыніў нас гаёвы з дубальтоўкай. Загадаў нам падацца ў лесніччоўку ў Алексеюках (цяпер Нікіфароўшчына), дзе трэба было нам выгрузіць з фурманак дровы. Дахаты вярнуліся мы з нічым. За крадзеж фуры драўніны сяброў аштрафавалі па 50 злотаў, а мне прыйшлося тыдзень прасядзець на пастарунку ў Орлі. Зняволенне адбываў я ў бараку памерамі 5x10 м, падзеленым сценкай да дзве часткі. У адной сядзелі арыштанты з двухтыднёвым прыгаворам, у другой — з тыднёвым. Кожны дзень выпускалі нас з барака на гадзіну падыхаць свежым паветрам і „апраўіцца", бо звычайна пісалі мы ў бутэлькі.

Потым была II сусветная вайна. Пасля вызвалення на вёсцы адбыліся цывілізацыйныя перамены, пайшла механізацыя, стала лепш жыць. Да 1989 г. змянілася вельмі многа. Цяпер быццам бы ўсё ёсць, але няма любві паміж людзьмі. Часта думаю: за што гэтыя людзі змагаюцца? Калісьці людзям усяго бракавала, але жылі яны больш згодна. Цяпер адзін аднаго ненавідзіць. Да чаго гэта ўсё давядзе? Людзі павінны апрытомнець і зразумець, да якой гібелі можа давесці нянавісць пры сучаснай тэхніцы.

Запісаў **Славамір Кулік**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXXVI. На заходнім узмежжы

Калі Супрасльская лаўра здолела абараняцца ад захопу яе уніятамі 16 гадоў, то манастыры Праабражэння Гасподняга Спаса і Свята-Троіцкі ў Драгічыне патрапілі захаваць вернасць праваслаўю да 1824 г., да скасавання іх указам цара Аляксандра І. Такім чынам каля дзесяці пакаленняў невялічкая грамадка праваслаўнай брацii нязломна трывала ў веры сваіх продкаў, Святым Праваслаўі, цярпечы бясконцыя націскі, праследаванні і здзекі з боку уніятаў і католікаў. Гэта быў незвычайны, геройны подзвіг.

Папярэдне часта гаварылася, што першым хрысціянскім веравызнаннем на Пабужжы і Панароўі было „усходняе", „грэчаскае" адгалінаванне хрысціянства. Апошнім часам гэта пацвердзілі знаходкі таблічак з грэцкім надпісам: „Ісусе Хрысце, перамагай", іх паходжанне вучоныя адносяць да VII—першай паловы IX стагоддзя. Таблічкі былі знойдзены ў вёсцы Заблоцце, на пагранічны Падляшша і Малапольшчы. Ні на месцы знаходкі, ні ў акрузе ніколі не было ні крэпасці, ні гарадзішча, гэта сведчыла пра пашырэнне „грэчаскага" хрысціянства сярод звычайнага насельніцтва Падляшша і Малапольшчы. Таму няма сумнення, што ў IX—X стагоддзі на Пабужжа пранікалі хрысціянізацыйныя місіі вучняў святых роўнаапостальных настаўнікаў славянскіх Кірыла і Мяфодзія.

Драгічын — гэта горад беларускага племя дрыгавічоў, яго назва абазначае „дрыгавіцкі", „прыналежны дрыгавічам". Як паказваюць археалагічныя знаходкі ў ім і запісы ў хроніках, з глыбокай старажытнасці і да навейшага часу ён адыгрываў выдатную ролю як важны цэнтр гаспадарчага і праваслаўнага духовага жыцця на Пабужжы, а ў XII—XV стагоддзях як сталіца беларускага Драгічынскага княства, з 1520 года ён — сталіца Падляшскага ваяводства ў Старабеларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім), у 1569 г. гвалтам адарваны і далучаны разам з усім Падляшшам да Каралеўства Польскага.

Першая праваслаўная царква паўстала ў Драгічыне, мабыць, у канцы X або на пачатку XI стагоддзя, а першы праваслаўны манастыр быў заснаваны ў XII або на пачатку XIII стагоддзя. Першы каталіцкі касцёл быў заснаваны тут толькі на пачатку XV ст., у часы панавання Вітаўта, які быў улюбёны ў Драгічын, найбольш ахвотна прабываў у ім, а першы каталіцкі кляштар паўстаў тут некалькімі дзесяцігоддзямі пазней за касцёл.

Гэтае першынство місіі і яе даўнасць давалі праваслаўным драгічынцам маральную перавагу над іншымі веравызнаннямі. Але ўжо ў пачатку XV стагоддзя, пры падтрымцы вялікакняскай улады (асабліва Вітаўта, Міхайлушкі Зыгмунтавіча і іншых) пачало браць верх наплыўное мазавецкае каталіцкае насельніцтва. Гэта ўзмоцнілася, калі ў Драгічыне ў 1409 г. князь Вітаўт пасяліў тут ордэн францішканаў, шчодра абдароўваючы яго прыгоннымі сялянамі, зямлёй, сенажацямі, лесам, мноствам прывілеяў. Францішкане па загаду Рыму і пажаданню Вітаўта і іншых каталіцкіх вялікіх князёў літоўскіх накіравалі ўсю сваю энергію на навяртанне праваслаўных у каталіцызм. Дагэтуль мірнае сужыццё драгічынскай грамадскасці было зніштожана агрэсіўным наступам францішканскіх законнікаў на праваслаўнае насельніцтва, цэрквы і манастыры. Нярэдка антаганізмы паміж католікамі і праваслаўнымі накаляліся да крайнасцяў: католікі і праваслаўныя сталі чужымі сабе і непрымірыма варожымі.

Гэта непакоіла нават вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка, які, відаць па ініцыятыве сваё жонкі, вялікай княгіні Ялены Іаанаўны ў 1498 г. надаў Драгічыну магдэбургскае права. Гэтае наданне ён ажыцявіў „з прычыны розніцы ў правах і звычаях, якія вынікаюць з розніцы паміж абрадамі лацінскімі і грэцкімі, таму жадаючы ўстанавіць паміж імі добрае пагадненне і адзінства, абдорваем адных як і другіх, што жывуць па абодвух берагах ракі, магдэбургскім правам". На жаль, гэтая надзвычай важная прывілея замест паспрыяць грамадскай згодзе, яшчэ болей раз'ятрыла адносіны паміж католікамі і праваслаўнымі, бо католікі рознымі хітрыкамі перахапілі ўладу ў гарадской самаўправе і з яшчэ большай заядласцю сталі праследаваць праваслаўных. Даведзенае да крайнасці праваслаўнае насельніцтва ў 1580 г. выступіла грамадою супраць несправядлівасцей і праследаванняў над ім з боку войта-католіка.

Нягледзячы на гэтыя неспрыяльныя абставіны перад уніяй 1596 г. у Драгічыне дзейнічалі цэрквы: Свята-Уваскрасенская, Свята-Прачысценская, Свята-Варварынская, Свята-Ільінская і капліца Святой Параскевы, два манастыры: Праабражэння Гасподняга Спаса з царквою і Свята-Троіцкі з царквою. Такім чынам сем праваслаўных храмаў, два манастыры і моцнае Свята-Мікалаеўскае брацтва ставілі Драгічын у ліку самых вялікіх і актыўных асяродкаў праваслаўнага духовага жыцця і праваслаўнай культуры на заходняй ускраіне Беларускай зямлі.

Вядома, каб магла паўстаць такая крэпасць праваслаўя і ўстаяць перад націскам іншаверцаў, павінна была карыстацца магутнай апорай і падтрымкай ва ўсіх пластах насельніцтва. Такой сілай, што забяспечвала актыўную дзейнасць гэтай крэпасці праваслаўя доўгі час было праваслаўнае баярства (шляхта) Драгічынскай зямлі, у яго ліку былі і заможныя магнаты, як і густанаселеныя ваколіцы служылых баяраў. Гэтая сіла абаранялa праваслаўны Драгічын і самiх сябе на сеймiках, сеймах, у судах, перад каралём і не скупілася на матэрыяльную падтрымку духавенства, храмаў, манастыроў. Не менеей дзейсным і ахвярным было заможнае драгічынскае мяшчанства, якое шчодра абдароўвала цэрквы і манастыры грошамі, плячамі, зямельнымі надзеламі, дамамі, лесам. За прыкладам баярства і мяшчанства ішоў просты люд, які, не валодаючы значнымі матэрыяльнымі сродкамі, не шкадаваў сваё ахвярнасці ў абароне праваслаўнага духавенства і храмаў у небяспечныя хвіліны.

У такім становішчы драгічынскі праваслаўны асяродак сустрэў аб'яўленне ў 1596 годзе уніі. Як падкрэслівае вядомы гісторык праваслаўя на Падляшшы д-р Антон Мірановіч: „Праваслаўная духовая і свецкая грамадскасць Драгічына адкінула пастановы берасцейскага сабора", засталася непахіснa вернай праваслаўю. І то наперакор таму, што драгічынскі праваслаўны асяродак быў падпарадкаваны ўладзімірскаму епіскапу Іпацію Пацею, які быў ініцыятарам уніі і фанатычным яе насаджальнікам.

**Мікола Гайдук**

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

*БАРЫС РУСКО*

## Праціранне вачэй

1

Равуць гудкі,
а вуха песціць фуга Баха,
а свечка ледзьве зіхаціць
у краіне сну,
а ноч у шчыліне камяніцы
і кава недапітая дыміць.
Акно адчыню у світанак,
а дня баюся.

2

І днём і ноччу
пад маскай фольгавай
аблічча горада,
павек не бачу,
ні падбародка.
Між столлю і парогам
дзверы і краты,
і вокны і краты,
і толькі сочыцца паветра
ў замкнёным крузе,
і толькі машын скрыгат
у рулоне вуліц,
і толькі ўдары ў што папала,
і дзе папала,
і толькі шчэрыць зубы
прывід парадку.
А на прыпынку трамвайным
чалавек абарваны
ў дрыготках.

3

Білетная каса адчынена поўныя суткі.
З вакзальных вутробаў
паўзуць і паўзуць жабракі,
лупцуюцца матам пячорным
і жывуць.
А п'яным цяжка на ўсходах,
а прастытуткі вылазяць са скуры,
даказваюць вартасць,
а цягнікі ў дарогу, шу-шу,
а поручні на пероне драўляныя,
і з шашалямі.

4

Абяцаюць: ключы ў сезам
на стале,
а прафесар грошы пазычыў
да палучкі;
а універсітэт хрыпіць ад
прастуды,
а настаўнік пытаецца лекара,
а лекар настаўніка,
ці хопіць сілы да вечара,
а ў тэатры пагасла святло
па першым акце,
а віла ў вячэрняй сукенцы,
і плыве карытам шампанскае,
і хваляць гаспадара за
спрыт жыццёвы.

5

Крапіла кропіць,
а засуха сваё.
Палец указвае трапу да крыніцы,
а яна высахла.
Пакута збаўчая,
ды ў небе.
Грукайце —
і вам адчыняць,
і будзеце сыты
і задаволены
за сталом нябесным...
А званы звоняць.

6

Выйшлі на вуліцу,
а словы трапечуць,
як сцягі.
Нічога не ўцямілі.
Нічога.
А каса пустая,
а з пустога і Саламон...
Абы да вясны,
а можа да лета,
а можа да восені —
даспее ўраджай...
Толькі як гэта данесці
да галоднага.

# Нядзеля перад Богаяўленнем

*(Мр., 1:1-8)*

19 студзеня прыпадае вялікае свята Хрышчэння Гасподняга, званае таксама Богаяўленнем. У нядзелю перад Богаяўленнем чытаецца ўрывак з 1-га раздзела Евангелля паводле Марка, у якім, згодна з храналогіяй падзеяў, гаворыцца пра з'яўленне Іаана Хрысціцеля, які хрысціячы народ заклікаў іх: „Рыхтуйце дарогу Госпаду, простымі рабіце сцежкі Яго". Іаан грозна і аўтарытэтна заклікаў разбэшчаны народ да самаачышчэння і пакаяння, асуджаў заганы і дамагаўся аднаўлення справядлівасці. Маральнае адраджэнне ён аб'явіў шляхам да сапраўднай свабоды, а прадстаўнікам афіцыйнай рэлігіі ён адважна заявіў: „Плод яхідніны, хто перасцярог вас уцякаць ад будучага гневу". Бязлітасная сякера была паднятая над рэлігійным нацыяналізмам і афіцыйнай пабожнасцю. Паводле Іаана ніхто не павінен лічыць сябе абраннікам Божым, калі ягонае жыццё і характар нязгодныя з Божымі запаветамі. Ён не паўстрымаўся нават ад крытыкі цара Ірада Антыпы за ягоную жаніцьбу з жонкаю свайго брата Філіпа. Пасаджаны ў турму Махеронт ён не перастаў у самых рэзкіх словах крытыкаваць валадара за ганебны і кровазмяшальны шлюб. Апынуўшыся ў экстрэмальнай сітуацыі, Іаан не сагнуўся бы, „трасціна на ветры", і за сваю бескампраміснасць у барацьбе са злом ён заплаціў сваёй пакутніцкай канчынай.

Праз некалькі гадоў, гэтак жа ў адказ Сінедрыёну, які забараняў пашыраць Евангелле, Апостал Пётр ды іншыя Апосталы адважна заявілі: „Больш трэба слухацца Бога, чым людзей" (Дзеі, 5:29). Гэтыя словы былі затым жыццёвай эпіграмай шэрагу людзей, якім сумленне не дазваляла адмовіцца ад сваіх прынцыпаў дзеля нейкай выгады.

Кампрамісам наогул называецца частковае адмаўленне ад прынцыпу дзеля дасягнення дамоўленасці і згоды. На гэтым асноўваецца дыпламатыя, якая патрабуе эластычнасці. Людзей здольных на разумны кампраміс пераважна шануецца як разумных, але з другога боку не ва ўсім і не заўсёды можна пайсці на кампраміс. Геройчнае спаборніцтва паміж Майсеем і фараонам дае нам класічны прыклад спакусы, звязанай з дасягненнем кампрамісу. Фараон гатовы быў адпусціць яўрэйскі народ, але з некаторымі агаворкамі, прапануючы, напрыклад, каб ён пакінуў у Егіпце свае статкі. Майсей разгадаў спакуслівія прапановы фараона і ягоны адказ быў кароткі і рашучы: „Не застанецца ні капыта" (Выхад, 10:26). Ёсць людзі, якія змяняюць погляды ў залежнасці ад кан'юнктуры, але такія пярэваратні не маюць ніякіх прынцыпаў.

Бог наогул не пасылае сваіх пасланнікаў, каб лісілівілі і паддобрываліся „князям чалавечым", захоўваючы іх у фальшывым пачуцці сваёй правільнасці. У камуністычныя часы, у часе калі ў лагерах гінулі тысячы духавенства і вернікаў, калі разбураліся тысячы храмаў, іерархія бясконца „дзякавала за апеку, за ўвагу для патрэб Царквы". Цяпер гаворыцца, што ўсё рабілася для дабра Царквы, нібыта для ейнага „выратавання". Дзякуючы гэтаму рабалепству, выратаваць нешта сапраўды ўдалося, толькі ці не варта было б падумаць колькі пры гэтым страчана ў сэнсе свайго аўтарытэту.

Евангельскае тлумачэнне кампрамісу — адназначнае. Гэтая духоўная здрада нязменна звязана з блізарукай выгадай. У далейшай перспектыве з Царквы — „нявесты Агнца робіць прадажную нявестку". Як „Містычнае Цела Хрыстова" Царква не патрабуе ніякага апякунства з боку дзяржавы: яна можа існаваць і ў катакомбах. У 20-я гады, ў час жорсткіх праследаванняў Царквы, сасланыя на Салаўкі епіскапы заявілі ў сваім „звароце да ўрада СССР", што „царква не можа быць слугою дзяржавы". Яны выказалі сваю агіду, выкліканую сервілізмам, хлуснёю і даносамі, несумяшчальнымі са святарскім санам. „Мы стаім перад дылемаю: або пайсці на кампраміс, адмовіўшыся ад свайго сумлення, або падпарадкавацца „ўрадавай Царкве", — пісаў замучаны пазней падпольны епіскап Міхаіл (Навасёлаў).

Са штодзённага назірання бачна, што дыпламатыя, эластычнасць і хітрасць больш практычныя за непахіснае адстойванне сваіх ідэалаў і перакананняў. Лепш жывецца тым, хто здольны прыстасавацца да любых умоваў як хамелеон, але гэта напэўна не па Евангеллі, у якім сказана: „Хай слова вашае будзе так — так, не — не. Усё што звыш гэтага — ад д'ябла". Толькі прынцыповыя, стойкія людзі здольныя ажыццявіць сваё пасланніцтва і адстаяць ідэі, у якія вераць.

Царква ўшаноўвае памяць Іаана Хрысціцеля, якога Сам Хрыстос назваў „найбольшым сярод калі-небудзь народжаных ад жанчыны". Адначасова перад Святам Богаяўлення — Вадохрышчам — напамінае вернікам ягоную ўзорную мужнасць і бескампраміснасць у барацьбе з любым злом, якіх вельмі часта не хапае нам.

**а. Канстанцін Бандарук**

# ПАРНАСІК

## Неспакой

Легла я адпачыць,
камар мне ў вуха бзыніць!
Шуміць, бурчыць і трашчыць
там на вуліцы. Зямля аж дрыжыць.
Як тут мне адпачыць?
Вялікі горад
вычварыў нораў.
Вылезла гора
з падвалаў, камораў
сёння і ўчора...
Няма адпору.
Ці ў такім Вавілоне
прыйдзецца жыць да скону?
У сваім доме,
але як без дому,
у клетцы з бетону?

**Іда Кавалевіч**

## Ой, жанчыны з Тынявіч

Ой, жанчыны з Тынявіч,
Я хачу вам пажадаць
Дружна ў сямейцы жыць
Ды і песенькі спяваць.

Не забыць нашай культуры,
Павялічваць наш фальклор.
Вашы песні вельмі любіць
У ваколіцы народ.

А мужчынам з Тынявіч
Раю, шчыра прызнаюся,
Памагаць кароў даіць
Ды з свіньмі управіцца.

Для ўлад у гміне Нарва
Хачу тут я падказаць,
Што харыстак з Тынявіч
Трэба вам спансараваць.

Калектыў адзіны ў гміне
Далёка праславіўся.
Хваляць за мяжой яго
І нам усім нравіцца.

Вам „Тынявічанкі" жадаю,
Сто гадоў каб пражылі,
А нашу культуру родну
У свет шырокі разняслі.

**Мікалай Лук'янюк**

## Час

Час ляціць —
Не славіць.
Праляцела летка,
Як гавораць, метка.
А вясна раней —
Не палічыць дней:
Праляцелі скора,
Як буран па моры.
Працавалі шчыра,
Бо аддана, з мірам.
А спакой і згода —
Верная пагода.
Кожны дзень і месяц
Ясней зоркі свеціць.
Калі ёсць спакой,
Лішняе далой:
Скупасць, эгаізм,
Чужасць, нігілізм...
На іх месцы дружба
І для Бога служба.
Згуртуемся ўраз,
Скінем свой маразм.
Нават і ў мароз
Гартуем свой лёс —
Мо ён не найлепшы...
Дык пішу я вершы,
Хоць яны слабыя.
Усе мы радавыя
Станем у рады
Старыя, малады,
Горда слова клікнуць,
Мовы не адвыкнуць
Беларускай — роднай,
Мо каму нямоднай.
Будзем мы служыць,
Мовай даражыць
У беластоцкім краю —
Беларускім гаю,
Дзе спяваюць птушкі
Лясныя частушкі.

**Мікалай Панфілюк**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXXVIII**

Сёння прыводжу фінальныя выказванні майго бацькі, Андрэя Баршчэўскага, якія я занатаваў пяць гадоў перад яго смерцю ў 1970 годзе.

„Ну, што я табе яшчэ хацеў бы сказаці. Можэ тое, што я за цэлэ своє жыцє то спаткаў вельмі много людзей, каторы харашэ і разумно верылі і не верылі. Харашэ і разумно былі парційнымі і беспарційнымі. Ну, а з другое стораны то спаткаў много такіх, што гадко і па-дурному верылі, або не верылі. Гадко і па дурному былі парційнымі або беспарційнымі. А каторы з іх тыя харошы і разумны, а каторы гадкі і дурныя? А харошы і разумны то былі заўшэ для мяне тыя веруючы і не веруючы, парційны і беспарційны, каторы верылі або ні верылі, былі парційны або беспарційны для саміх сябе, а не для другіх. Такія людзі ніколі ні крычалі і ні хваталі іншых за горло за тое, што хтось падругому чым яны думают. Такія людзі то яны ў сэрцу носят сваю праўду, а не на лупах (вуснах — А.Б.). Ну, а гадкіе і дурные то тые, што вішчат аб том, што яны верат або ні верат, што яны парційны або беспарційны. У такіх людзей у сэрцы німа праўды, там у іх пустата. От таму яны і верашчат і хватают другіх за горло. Гэто свалата і ад такіх уцікай, ні звязвайся з імі і ідзі сваёю дарогаю. І сам ніколі ні будзь такою свалатою. Вер або ні вер, будзь парційны або беспарційны, але ні вішчы аб гэтом.

І сегодне ў нас таксамо такіх поўно. Ты з імі ніколі ні сварысе і ні спор. Гэто пустое дзело.

Ну, а што касаецца нашае родзіны, то я табе скажу так. Да вайны ў нас жыло ў Бандарах кала ста чалавек. Прашло, бачыш з таго часу трыццаць лет і жыве ў нас сегодне дзесь так пядзісят чалавек. Я думаю, што да канца веку то застанецца ў нас ні больш як дваццаць пяць чалавек. Ну а так дзесь калі 2030 року то ўжэ ні будзе нікого. Будзе ў Бандарах пустыня. І таксамо дзело абстаіт у Рыбаках, Багнюках, у Таніцах і ўсюды кругом на беларускай зямлі. Ну то што палучаецца? Палучаецца, што будзе тут пустыня. То з гэтаго выходзіт, што ні будзе тут беларускае родзіны. Бо бачыш, для таго, каб была родзіна, то трэбо, каб была зямля і людзі. Калі ест людзі, але німа зямлі, то німа родзіны і калі ест зямля а німа людзей, то таксамо німа родзіны. Ну, і яно так заносіцца, што ўжэ хутко яно так у нас будзе.

Ну, а чаму мы так хутко выміраемо? Ну ведомо чаму. Людзі сталі выгодно жыці і таму ні хочут меці много дзіцей. Там много дзіцей, дзе много беды. А там, дзе добрэ жыце, то дзіцей вельмі мало. А жыце цэлы час палепшаецца. Ну, а другая прычына то такая, што горад бярэ і маладых, і старых. Кожны, хто толькі хочэ, то знойдзе і работу, і кварціру ў горадзе. От народ і папер у гарады. От бачыш, у тым, што мало родзіцца дзіцей і што беларусы прут у горад, уся наша біда. А ты знаеш, што наш народ гаварыў перад вайною? Бывало як толькі зберэмся на лаўках, то зараз усе говорат аб тым, што жджэ нас тут поўна згінота ад перанасялення. От так мы аблічалі, што дзесь так пад канец веку то будзе ў Бандарах жыці больш як пяцьсот чалавек і што ўсе яны падушацца, бо ні змесцяцца ў хатах і згінуць ад голаду, бо наша зямля такого калічаства ні пракорміт. То бачыш, як мы прамахнуліся?! Пад канец веку ў нас будзе жыці ні 500 чалавек але чалавек 20—25, ні больш. От бачыш, якіе з нас аказаліся пpаpокі! Аказаласё ўсё наадварот. Згінем мы ні ад перанасялення, але ад пустыні. От бачыш, якіе гэто бывают на свеці неажыданасці.

Ну, але ўжэ і сегодне ні трэбо ждаці пяцідзесяці лет, бо мы гэту сваю родзіну як бы маем і як бы ні маем. То ж калісь то тут аж гудзело і ад беларускіх песняў і ад нашых хрысцінаў, і вяселляў, і пахаронаў. Колькі гэто было нашых звычаёў і забабонаў. Ну, можэ многія з іх то былі і смешны, а можэ і як бы дурнаваты. Але ж гэто ўсё было нашэ, роднэ. Ішло яно ад дзядоў і ад прадзедоў. І нікому нават у голоў ні прыходзіло, каб ад гэтаго ўсяго адступаці або гаварыці ні па-нашаму. Бывало, праўда, што як хтось вярнуўся з царскае арміі то зараз пробуваў гаварыці па-руску. То такого то зараз высмейвалі або празывалі і што ты думаеш, такі чалавек варочаўся да нашаго разгавору. А сягодне то ўсё пашло па-другому. Пачці што ўсе маладыя, што пажылі ў гарадах, ужэ пшэкают. Ну, а калі толькі ўсе з часам загаворат па-польску, то якая ж гэто будзе беларуска родзіна? Будзе гэто польска родзіна.

Мне то так на пачатку, як ты мяне пытаў пра нашу родзіну, што гэто ні мае ніякаго смыслу. А сегодне то я думаю, што можэ якісь там смысл мае. Ніхай маладые даведаюцца як старые думалі і думают. Ну і я многе мусіў прыпомніць. А чую, што памяць усе у мяне горшае і ўжэ за пару лет, калі буду жыці, я табе ні сказаў бы таго, што сказаў.

Ты знаеш, калі я сабе падумаю, што тут усё нашэ згіне і ні будзе нашае родзіны, то на сэрцы робіцца так яксе праціўно. Шкада, вельмі шкада".

**Алесь Барскі**

# НАСЛЕДНІКІ ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

Калі гартаю новы нумар „Нівы", абавязкова заглядаю ў „Парнасік".

І што бачу?

Панфілюковыя вершы. Многа іх. Амаль у кожным нумары. Да ныдаўна я і не падумаў бы, што Панфілюк можа пісаць вершы. Мне ён вядомы як шматгадовы карэспандэнт „Нівы", з якім многія гады спаборнічаў я ў конкурсе „Карэспандэнт года".

Ці ж гэта той самы Мікалай Панфілюк з Дубічаў-Царкоўных, з якім часта прыходзілася спрачацца на старонках роднага часопіса? Аж верыць не хочацца!

Не лічу сябе знатаком паэзіі. Аднак прызнаюся, што яго новы верш „Лес, варт ты славы" мне вельмі спадабаўся. Шчырыя, праўдзівыя словы выказаныя Панфілюком у вершы кранулі маё сэрца, маю душу. Я выхаваўся, можна сказаць, у лесе. Таму разумею кожную сасонку, кожнае дрэўца. Таму разумею свайго калегу і паэта. Няўжо мой сябрук, Мікола, пайшоў слядамі славутага нйўскага Дзядзькі Кваса? Стаў яго наследнікам? Ды не толькі ён! Адгукнуўся і другі калега з даўнейшага авангарду Мікалай Лук'янюк. Адны Міколы — паэты! Быццам бы святы Мікалай прынёс у тым годзе „Ніве" навагодні падарунак — двух стойкіх сейбітаў роднага слова! Яшчэ зараз прыпамінаецца мне верш Мікалая Лук'янюка „Да карэспандэнтаў", які быў друкаваны на старонках тыднёвіка 20 жніўня 1978 года:

*Ці то летам, ці зімою,*
*Пішы, браце, з галавою.*
*Пад развагу трэба браці*
*Як, калі і што пісаці.*

Няхай гэтыя словы нашага калегі па пяру прабудзяць і іншых супрацоўнікаў, даўнейшых, і тых цяперашніх, да цеснага і стойкага супрацоўніцтва з „Нівай", да папулярызацыі нашага часопіса ў краіне і за рубяжом у Новым 1996 годзе.

Карыстаючыся нагодай, жадаю і нашым Мікалаям — паэтам, духовага натхнення ў іх далейшай творчасці, а ўсяму рэдакцыйнаму калектыву „Нівы" — веры ў нашае сапраўднае сяброўства. З Новым Годам, паважаныя калегі! З новым шчасцем!

**Уладзімір Сідарук**

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

BERDYCHOWSKA Bogumiła: Polska polityka narodowościowa w latach 1989-1994. *Kultura* 1995, nr 5, s. 89-97.

- Wobec mniejszości. *Społeczeństwo Otwarte* 1995, nr 4, s. 3-6.

Cabanowski Marek: Generał Stanisław Bułak-Bałachowicz. Warszawa 1993; Rec. PALUSZYŃSKI Tomasz, *Studia z Dziejów Rosji i Europy Srodkowo-Wschodniej* 1995, t. 30, s. 187-188.

ENGELKING Anna, RUSZCZYK Grażyna: Polesie. *Krasnogruda* 1995, nr 4, s. 121-130. Sum.

GNATOWSKI Michał: Kresy północno-wschodnie (Zachodnia Białoruś w latach II wojny światowej (1939-1944): niektóre aspekty metodologiczne i problemy badawcze. *Białostockie Teki Historyczne* 1995, t. 1, s. 81-102.

GOMÓŁKA Krystyna: Białorusini w II Rzeczpospolitej [w:] Zeszyty Naukowe Politechniki Gdańskiej, Ekonomia 1992, z. 31; Rec. WOJNICKA Maria, *Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej* 1995, t. 30, s. 190-193.

(KK): Polskie publikacje zwarte dotyczące zagadnień narodowościowych od 1990 roku (zarys bibliografii). *Sprawy Narodowościowe* 1995, z. 1, s. 203-297.

Łaniec Stanisław: Białoruś w dobie kryzysu społeczno-politycznego (1900-1914). Olsztyn 1993; Rec. KORZENIOWSKI Mariusz, *Studia z Dziejów Rosji i Europy Srodkowo-Wschodniej* 1995, t. 30, s. 182-183.

OBODOWSKI Siergiej: Zostaniemy do końca. Z przewodniczącym Wolnego Związku Zawodowego Białorusi, Region Mohylew... rozm. przepr. Józef Biegański. *Gazeta Współczesna*, 15-17.12.1995 r., nr 243(13395), s. 6, foto.

PADUSZYŃSKA Marianna: Mord na kilkudziesięciu Polakach, Białorusinach w tym żołnierzach Armii Krajowej w dniu 6 lipca 1944 r. w gminie Zdzięcioł powiat nowogródzki. *Biuletyn Okręgowej Komisji Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu w Łodzi Instytutu Pamięci Narodowej*, Łódź 1994, t. 3, s. 185-187.

SADOWSKI Wojciech: Przesiedleńcy z Białorusi w procesie migracji i osadnictwa. (Fragm.). *Nadwarciański Rocznik Historyczno-Archiwalny*, Gorzów Wielkopolski 1995, nr 2, s. 104-126.

WIERZBICKI Marek: Bliżej prawdy. (Konferencja naukowa "Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na Kresach Wschodnich II Rzeczpospolitej 1939-1941"). *Rocznik Wschodni* R. 1:1994, s. 16-20.

WRZOSEK Mieczysław: Polskie formacje wojskowe na Ukrainie i Białorusi w 1918 r. Cz. 6. *Białostockie Teki Historyczne* 1995, t. 1, s. 139-225.

Zaprudnik Jan: Belarus: at a crossroad in history. Oxford 1993; *Sprawy Narodowościowe* 1995, z. 1, s. 269-272.

**Р. С.**

# З народных песень

*(заканчэнне; пачатак у 47, 48 і 53 н-рах за мінулы год)*
*Песні з ваколіц Полацка, Лепеля, Глыбокага і Празарок.*

Ах дзяўчатачкі мае,
Самі ж вы падумайце,
Ці сядзелі б вы з тым,
Каго вы не любіце.
А ў маёй сволачы
Гарыць агонь да поўначы.
А я думаў, што пажар,
Басяком к ёй прыбяжаў.
Я сваю сапернiцу
Павязу на мельніцу,
У машыну галавой,
Гуляй саперніца з вадой.
А сягоння скучны дзень,
Дадуць міламу шынель,
Шапачку ваенную,
Аставіць мяне бедную.
Я па вуліцы ішла,
Галавешку найшла,
Палажыла на плячо,
Стала ў плечы гарачо.
Мяне білі кірпічом,
Не папалі па нічом,
А папалі па плячу,
Тры нядзелі хіхачу.
Слава Богу, панямногу
Стаў я разжывацца.
Прадаў дом, купіў вароты
І стаў запірацца.
Баліць сэрца і пячонка.
Сам не знаю ад чаго.
За ракой жывець дзяўчонка,
Гэта, верна, ад таго.
Беларуская дзяўчына
Прыгожая як маліна.
Любіць мальцаў ад душы,
Ці то свой, ці то чужы.

брат **Браніслаў Кавэцкі**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне!

У сне я бачу, быццам у блёку з восьмага паверха падае чорны кот. Мне шкада яго. Быццам калісьці ён быў наш. Я паклікала сына і кажу: „Ратуйма яго!" Ён упаў на зямлю, пацарапаў хрыбет, павырывалася поўсць. Мы падышлі, ўзялі яго і нясем.

Аліна

Мне 11 гадоў. Я чытаю „Зорку", але і рубрыку „Вер — не — вер" таксама. Вось і мне прысніўся цікавы сон. Плыву я параходам. Параход даплыў да берага. Выйшаў я з яго і іду па горадзе (у Амерыцы! Там мая мама). Спатыкаю калегаў. І разам ідзем шукаць тую вуліцу, дзе жыве мая мама. Мо і знайшлі б, але дзедка крыкнуў: „Уставай, пара ў школу збірацца!" Я прачнуўся. Усё прапала. Ляжу на канапе ў дзедавай хаце. Раззлаваўся я і кажу: „Што ж ты, дзеду, нарабіў. Каб не збудзіў, мо ўжо я з сябрамі ў мамінай хаце быў бы".

Адам

Аліна! Дзіўны твой сон. Калі сніцца кот, ды яшчэ чорны, абазначае гэта, што ёсць у цябе нейкія хітрыя і прадажныя сябры. Але ж гэты кот быў абабіты і пацарапаны — відаць, што нейкі сябра на гэтым сваім характары здорава праехаўся. Ну, і табе стала яго шкада. Асцярожна! Унясеш такога ката ў хату — і зноў можа ён нарабіць бяды.

А табе, Адам, праснілася, што ты плыў параходам, і гэта прадвяшчае табе нейкае ўдалае падарожжа. Тым больш, што ты ехаў заграніцу, да мамы. У кожным разе ў тваіх справах павінен быць паварот у добры бок, хаця дзед і не даў табе дагледзець твой прыемны сон да канца.

Астрон

## Позірк у мінулае

**14 студзеня**
1862 г. — Льюіс Кэрал закончыў „Алісу ў краіне цудаў".
1914 г. — Генры Форд увёў мантажную ленту для зборкі аўтамабіляў.
1972 г. — Маргарыта II каралевай Даніі.
**15 студзеня**
1622 г. — нар. Мальер, французскі пісьменнік.
**16 студзеня**
1574 г. — Іван IV каранаваны царом Расіі.
1598 г. — Фёдар Гадуноў царом Расіі.
1920 г. — У ЗША ўведзена сухі закон.
1969 г. — першае злучэнне ў космасе Саюза-4 і Саюза-5.
**17 студзеня**
1468 г. — памёр Скандэрбег, албанскі нацыянальны герой.
1732 г. — нар. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні польскі кароль.
1899 г. — нар. Альфонса Капонэ, амерыканскі мафіозі.
1928 г. — Леў Троцкі сасланы ў Алма-Ату.
1932 г. — 138 дарог у Нямеччыне атрымалі нумары; н-р 1 атрымала дарога з Аахен у Кёнігсберг.
1969 г. — 21-гадовы студэнт Ян Палах самаспаліўся ў Празе.
**18 студзеня**
1701 г. — Фрыдрых III Брандэнбургскі каранаваны ў Кёнігсбергу каралём Прусіі.
1848 г. — прапрэм'ера оперы „Галька" Станіслава Манюшкі ў Вільні.
1871 г. — кароль Вільгельм I каранаваны першым нямецкім кайзерам.
1911 г. — першае прызямленне лётчыка на палубе карабля, здзейсненае амерыканцам Юджынам Элі.
**19 студзеня**
1736 г. — нар. Джэймс Уот, англійскі канструктар першай паравай машыны.
1943 г. — нар. Джэніс Джоплін, амерыканская спявачка.
**20 студзеня**
1920 г. — нар. Фэдэрыка Феліні, італьянскі кінарэжысёр.
1932 г. — адкрыты авіямаршрут з Лондана ў Капштад. Пралёт 12 800 км доўжыўся 11 сутак.

(Ш)

## Адгалоскі

### Моладзь пратэстуе

Напісаць гэты ліст прымусілі нас два тэксты змешчаныя ў Вашым тыднёвіку ад 12 і 26 лістапада 1995 г. Перш за ўсё таму, што гэта якраз нас „жменька хуліганаў спакойна клеіла па мухаедах, аднаго за адным". Нас — вучняў Бельскага белліцэя. Таму ўсё, што за гэтым ідзе, датычыць таксама нас. Не збіраемся весці палеміку, бо гэта і праўда, што няма з кім. А Вашы перапросіны можаце сабе... дараваць.

Нам, маладым, за Вас сорамна. Здаецца ў нас больш гонару і прыстойнасці, чым у старэйшых. Засланяецца правамі журналістыкі. А ці „Ніва" ад усіх іншых газет у Польшчы розніцца толькі моваю, на якой друкуецца?

**І яшчэ адно! Ці сапраўды не бачыце прычын, для якіх нельга жартаваць з маладых?** А ці не задумоўваецеся над гэтым, хто праз некалькі гадоў, скажам праз пятнаццаць, будзе яшчэ хацець чытаць Ваш тыднёвік? Не ведаеце хто? Мы таксама не!

Адам Кардзюкевіч, Лука Сцепанюк, Ян Нікіцюк, Тамаш Бжазоўскі, Марэк Літвінюк, Пётр Іванюк, Рыгор Зінкевіч, Міраслаў Пац, Яраслаў Якімчук, Тамаш Лукашук, Анэта Сідарук, Ганна Лазовік, Альжбета Шышковіч, Анеля Сушч, Барбара Ярашук, Яраслаў Ліпінскі, Марэк Байко, Лёнік Сустрэча, Андрэй Саковіч, Андрэй Якімюк, Міраслаў Старчэўскі, Яраслаў Сахарчук і адзін неразборлівы подпіс.

Бельск-Падляшскі
15.XII.1995

## СВЯТОЧНЫ КАСЯК

**Направа:** 1. прычыніўся да выгнання з Раю, 2. абласны горад на Волзе, 4. жыхары Каўнаса (мн. л.), 6. яда, 7. старажытная дзяржава з цэнтрам у горадзе Сузы, 8. фарысей, які размаўляў з Ісусам, 10. дачка Вафуіла (Быццё, 24:15), 13. стральба, 14. жонка князя, 16. месца нараджэння Ісуса, 17. шэрань, 19. „замежжа" футбольнага поля, 20. Пяцікніжжа.

**Налева:** 1. створанае ў Першы Дзень, 3. міжнароднае пагадненне, 5. салодкая настойка, 6. дапаўненне Карана, 7. вокліч Архімеда, 9. стыль Луі XV, 11. горад між Кракавам і Катавіцамі, 12. злы дух, што жыў у вадзе, 15. з'езд кардыналаў дзеля выбару папы, 16. горад і правінцыя ў Канадзе, 18. продак, 19. частка суры, 21. мясцовасць, дзе нарадзіўся апостал Павел.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, разыграем кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 48 н-ра:**

**Гарызантальна:** Гаўс, адвар, Івянец, клін, кебаб, убоіна, дрывасек, Папуа, харакіры, арыгінал, авары, сінагога, зямляк, адэпт, Оўэн, Слонім, Міёры, Арад.

**Вертыкальна:** адзежа, какаду, абліваха, сінус, вянок, песня, Бразілія, бедалага, план, прыз, „Ніва", лысы, алегрэта, Вадзім, рапіра, мятла, сліна, Нкома.

Кніжную ўзнагароду высылаем Лукашу Пацэвічу з Беластока.

## З былога

### Не рабі нікому зла

Гэту гісторыю чула я ад старога мужчыны, калі была малой дзяўчынкай.

Жыла раз адна закаханая пара, абое бедныя. У суседняй вёсцы жыў працавіты і багаты гаспадар — усе ведалі, што ў яго шмат грошай і золата.

Дзяўчына параіла свайму каханаму:

— Ідзі ды забі яго, забяры ўсе грошы і золата. Купім сабе гаспадарку, зажывем як людзі!

Хлопец не хацеў крыўдзіць ні тым больш забіць нявіннага і прыстойнага чалавека, але дзяўчына настойвала, прасіла, маліла, дамагалася, і кавалер рашыў ісці на забойства. Не ўсё, аднак, змог украсці.

Багацея пахавалі. Дзяўчына загадала:

— Ідзі апоўначы на могільнік, стань каля магілы старога і слухай, якія словы выйдуць з-пад зямлі. Вядома, гэта грэх забіць чалавека, але не маем іншага спосабу, каб стаць багатымі.

Пайшоў хлопец перад поўначчу на могільнік. Прыклаў вуха да зямлі. Раптам нехта пад зямлёй цяжка ўздыхнуў і прастагнаў:

— О, Госпадзе, чаго ж яны прычапіліся да мяне, няшчаснага!

На гэта нехта адказаў моцным голасам: „Упамянуся! Як не на іх, то на іх дзецях, як не на дзецях, то на ўнуках, як не на ўнуках, то на праўнуках!.."

Расказаў пра пачутае нарачонай ледзь жывы з пераляку хлопец.

За нарабаваныя грошы згулялі вяселле, купілі зямлю, пабудаваліся. Жылі згодна, радзіла ім гаспадарка, раслі прыгожыя і здаровыя дзеці. Думалі, што так будзе заўсёды...

Хадзіў па хатах бацюшка пасля Вадохрышча, высвенчваў дамы. Пакуль абышоў усю вёску, сцямнела. Рашыў пераначаваць. Заехаў, вядома, да найбагацейшага гаспадара — вядомага нам забойцы. Гаспадыня кінулася рыхтаваць вячэру. Дома было шмат мяса і кілбас, але хацела яшчэ зрабіць і яечню.

Першае яйка выпала з рук і разбілася. Уся сям'я пачала плакаць над змарнаваным яйкам.

Пасля вячэры бацюшка і вазак леглі спаць, за імі падаліся на спачын і ўсе хатнія. Ноччу святару прысніўся сон. Барадаты старац загадаў бацюшку, каб хутчэй пакідаў гэты дом, бо хутка тут разліецца возера. Святар спалохаўся, прачнуўся, перажагнаўся ды зноў заснуў. Некалькі раз непакоіў яго гэты сон, аж урэшце разбудзіў ён вазака і загадаў запрагаць коней.

Ад'ехалі некалькі кіламетраў ад вёскі. Агледзеўся бацюшка, а тут няма Евангелля, пакінуў яго ў гаспадароў на стале. Развярнулі воз, паехалі назад. Там, дзе раней стаяў дом, цяпер разлілося невялікае возера. На гладзі вады плаваў столік з „Евангеллем". Столік падплыў да берага, бацюшка ўзяў кнігу, і столік патануў.

Старажылы заўсёды паўтараюць: „Не рабі нікому зла, бо Бог адплаціць табе і тваім нашчадкам!"

Аўрора

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# ТОСТЫ

Тосты бываюць розныя: вясёлыя, сур'ёзныя... Прапаную вам тост, які...

Карацей, вып'ем за тое, каб вашая хата не ведала ні ўрача, ні адваката!

Але гэтага мала.

Каб у вас і ў вашай хаце ніколі дах не паехаў!

Але і гэтага недастаткова.

Каб у вас цэлы год грошай куры не клявалі і ўсе даўгі суседзі аддавалі!

Але і гэта не ўсё.

Каб у вашым двары алкашы не выпівалі, каб дзеці ліфты не ламалі, каб на суседнім балконе сабакі ноччу не брахалі!

Каб!.. Каб!.. Каб!..

І яшчэ пажадаем вам у Новым годзе разумных начальнікаў і сумленных дэпутатаў.

**Ф. Рудовіч**






Мал. А. Папова

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка**

Кавальская да свайго мужа:

— Нашы суседзі, гэта вельмі мілыя людзі. Ён штодзённа, выходзячы на працу, цалуе яе далікатна. Чаму ты гэтага не робіш?

— Спярша мушу з ёю пазнаёміцца.

***

Сакратаркі размаўляюць пра свайго начальніка:

— Як ён цудоўна апранаецца, — гаворыць адна.

— І як хутка, — дадае другая.

***

Позні вечар. Заўтра сужонства будзе адзначаць 25-годдзе шлюбу. Абое ў задуме.

„Цікава, што мой каханы муж купіць мне на гэты юбілей, — думае жонка, — можа залаты ланцужок".

„Эх, — думае муж, — каб быў тады, як сабе запланаваў, яе забіў, то ўжо заўтра выходзіў бы з турмы".

***

На шашы, у дарожнай катастрофе, самаход раз'ехаў жанчыну напалову. У морг прыехаў муж і забірае толькі ніжнюю частку. Здзіўленаму лекару паясняе:

— Што кахаў, тое забраў; што брахала, тое прапала.

***

На шпацыры Гапка пытае мужа:

— Ці гэта праўда, што земнаводныя не маюць мазгоў?

— Так, жабка.

***

На пляжы загарае прыгожая дзяўчына. Побач яе разлажыўся Ваня з радыёпрыёмнікам. Наводзячы прыёмнік, быццам ненарокам, дакрануў да яе грудзей.

— Што вы робіце! — абурылася.

— Шукаю Радыё „Свабода".

Дзяўчына акінула яго зняважлівым зрокам:

— З такою антэнай то вы нават Варшавы не зловіце.

***

— Што вы рабілі ў гэтага старэчы? — пытае маці дзвюх дарастаючых дачок.

— Даў мне мільён, каб яго дакранула... ну, знаеш мама, дзе...

— Ах, ты распусніца, мый хутка рукі гарачаю вадою з мылам!

Дзяўчына паслушна мые рукі і галасна смяецца.

— Чаго смяешся, дурніца?

— Бо ўжо сабе ўяўляю, як праз хвіліну Зоя будзе мыць рот.

<u>Спеўнік Нупрэя Супонькі</u>

## Ой, мароз, мароз

Ой, мароз, мароз,
Не марозь мяне.
Не малюй узор
На маім акне.

Ветрам за сцяной
Не пасвістывай.
У мяне даўно
Хата выстыла.

Не вядзі ты ў двор
Сцюжу клятую.
Не ўганюся я
За квартплатаю.

Іней з весніцаў
Не страсаецца.
На цяпло цана,
Ох, кусаецца.

Нас інфляцыя
Хутка ў рог сагне.
Дык хоць ты, мароз,
Пашкадуй мяне...

Ой, мароз, мароз,
Не марозь мяне.
Не малюй узор
На маім акне...

*„Вожык"*

## З нашага жыцця

— Што там новага ў вёсцы?

— А нічога. Толькі калі апошні раз была дыскатэка, то дзве дзеўкі так моцна пабіліся з-за хлопца, што прыязджалі паліцыя і карэта хутка дапамогі!

— Той хлопец не перашкодзіў ім біцца, не разбараняў?

— Толькі глядзеў на гэта, пасля плюнуў і пайшоў гуляць з трэцяй.

***

— Ты што такая сумная, Ніна?

— Ой, Надзя! Знайшла я новых сто злотаў.

— То чаго ж табе сумаваць?! Цешся, што грошы на дарозе ляжаць! Гэта ж „стары" мільён!

— А якая ж гэта радасць! А можа гэта хтось мне фальшыўку падкінуў?! Што тады будзе — пайду ў краму, а мяне за руку схопяць, паліцыю пазвуць?! Яшчэ ў турму траплю! Пачнуць у маёй хаце шукаць машынку для грошай. Страшна цешыцца такой знаходкай...

***

Нагатавала маці тлустай капусты. Гарачая, а пара з гаршка не ляціць. Наліла маці страву ў талеркі, паставіла на стол, каб астыла, і выйшла з кухні.

Бацька і двух дарослых сыноў увайшлі ў кухню, і, галодныя, убачыўшы капусту, схапіліся за лыжкі. Набраў капусты ў рот старэйшы сын — запякло! Не падаў віду, адклаў лыжку, паглядзеў у акно, сказаў: „Зялёны дубок...". Малодшы, апёкшы рот, прамармытаў: „Развіўся ды асыпаўся" і таксама заглядзеўся на неба. Бацька набраў гарачай капусты ў рот, і, зразумеўшы, што сыны з ім пажартавалі, узлаваўся: „А каб вы, сынкі, самі пазелянелі!"

***

У адной вёсцы жыла вельмі спакойная дзяўчына. Ніхто не бачыў і не чуў, каб цікавіліся ёю хлопцы. Вядома, усе здзівіліся, калі ўбачылі Еўку цяжарнай.

— Як гэта ў цябе атрымалася? — запытаў дзяўчыну дзед Ахрэм.

— Справа простая: я купалася ў сажалцы з хлопцамі...

**Аўрора**

<u>У кіпцюрах цецерука</u>

## Шасцівугольнае кола

**1.**

Праляцеў год, адкуль у Горадзе дзейнічаюць два літаратурныя гурткі. Першы — гэта літаб'яднанне „Крынічка", другі — „Ручаёк". Напрыканцы апошняга года між членамі ўспомненых згуртаванняў разгарэўся рэзкі канфлікт. Пісьменнікі з „Крынічкі" ўпікнулі сваім калегам з „Ручайка", што ў іхніх творах занадта часта паяўляецца слова „бярозка". Аўтары з „Ручайка" не асталіся ў даўжніках: палічылі, што ў вершах „крынічкаўцаў" пяць разоў без неабходнай патрэбы выступае слова „сасонка".

А добра паінфармаваныя шэпчуць, што праўдзівая прычына канфлікту ляжыць пасярэдзіне, г.зн. у непрыкметным будыначку між сядзібамі абедзвюх груповак. Калісьці была тут гэзсаўская вартоўня. Цяпер адны, як і другія літаратары абмяркавалі перайменаваць вартоўню на магазін для сваіх непрадавальных кніжак.

**2.**

У Мястэчку будуецца Музей. Будуецца даволі доўга, каб паспяхова раздзяліць жыхароў на дзве супрацьлеглыя сабе групы. У першай апынуліся тыя, хто даў драла ў Горад, у другой — старэчы, якія, седзячы на месцы, цярпліва чакаюць на пасады ў якасці жывых экспанатаў.

Галасы, каб будову Музея працягваць у Горадзе, маюць такі сэнс, як нашэнне шыбеніцы за даўно ўжо памілаваным астрожнікам.

**3.**

У Раёне дзейнічаюць тры арганізацыі: Бацькі, Сыны і Унукі. Кожная арганізацыя клапоціцца пра тое, каб яе грамадская, культурная і палітычная праграма не супадала з праграмамі двух астатніх гурткоў. Адно, што спалучае ўсе тры арганізацыі — гэта безграшоўе. За атрыманую датацыю кожная групка магла б купіць або адну скрыпку, або адзін гармонік, або адну гітару.

Чытаючы віншавальныя лісты, якія курсіруюць між лідэрамі Бацькоў, Сыноў і Унукаў, можна спадзявацца, што ў будучыні, якую можна прадбачыць, трыо не сыграе.

**4.**

У Горадзе друкуюцца два выданні. Першы — гэта „Жніва", другі — „Сенакос". У мінулым была гэта адна газета, азагалоўленая „Поле і Луг", а раздвоілася тады, калі дзяліліся Чэхаславакія, Югаславія і СССР.

На добры пачатак абедзве рэдакцыі дайшлі да вываду, што неабходным „гаджэтам" для існавання газеты з'яўляецца камп'ютэр. Як гэта бывае ў шлюбаразводных працэсах, самім узгаральным пунктам аказваецца падзел маёмасці.

Перамяшчаўся тады асірацелы камп'ютэр з аднае рэдакцыі ў другую, пакуль не злітаваліся над ім нейкія зладзеі. Каб забяспечыць інтэлігентную машыну ад знішчэння безупынный вандроўкай, вынеслі яе і схавалі... у сабе толькі вядомым месцы.

**5.**

У Мястэчку выбары ў сейм адбыліся паспяхова. У спаборніцтва ўступіла сотня кандыдатаў і ў колькасных адносінах была гэта другая, за СЛД, сіла ў ваяводстве.

Як адзіная мясціна ў дзяржаве, Мястэчка можа пахваліцца самаю вялікай, бо стопрацэнтнай прысутнасцю, а дадаткова яшчэ, усе галасы былі важныя.

Кожны кандыдат атрымаў адзін, можна здагадвацца, што свой уласны, голас.

Праўда, ніхто ў паслы не пайшоў, нат упэўнены ў сваёй перпавазе малады, энергічны дырэктар фірмы „БУБА". А мо гэта і добра? Унікнуў чалавек зайздросных языкоў, ды ненавісных позіркаў.

**6.**

Жыхары пасёлкаў Пустэча, Халадзеча, Цямніца і Галеча прачыталі ў газеце, што іхнімі вуліцамі праязджаў аднойчы пасол суседняй дзяржавы, а адначасова і іхні суродзіч. Разам з паслом падарожнічалі журналісты „Жніва" і „Сенакоса", пісьменнікі „Ручайка" і „Крынічкі", а таксама грамадскія і палітычныя дзеячы. На жаль, не была гэта пара серыйных фэстаў, таму вандроўны атрад нідзе і не спыняўся. Усё гэта жыхары ўспомненых пасёлкаў прачыталі ў газеце.

І пайшлі на піва.

**Міхась Андрасюк**